Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

Сувязь савецкіх органаў паміж сабой і масамі—аснова савецкага будаўніцтва.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ ССР



20 ЛЮТАГА 1928 году.
2 (45)

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ.




ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР.
Менск.—1928 г.

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ ССР

20 ЛЮТАГА 1928 году.
2 (45)

---

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ.

---

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР.
Менск.—1928 г.

# ЗЬМЕСТ

Стар.

Зацьверджана Эканамічнаю Нарадаю пры Савеце Народных Камісараў БССР 28 сьнежня 1927 г.

(Дадатак да пастановы Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР за 28-га сьнежня 1927 г. „Пра мерапрыемствы для змаганьня з дамовым грыбком“. — (З. з. БССР 1928 г. № 3, арт. 18.)

# 1. Тэхнічная інструкцыя

## ПРА МЕРАПРЫЕМСТВЫ ДЛЯ ЗМАГАНЬНЯ З ДАМОВЫМ ГРЫБКОМ.

Найбольш небясьпечным шкоднікам для дрэва зьяўляецца дамовы грыбок Merulius lacrymans ці інакш называемы Merulius destruens.

На падставе досьледаў дамовы грыбок можа псаваць дрэва, калі ў дрэве ёсьць вады больш 22-23 проц. і менш 57-50 проц. Зародкі гэтага грыбка пачынаюць прарастаць на дрэве, калі яно мае ня менш 23-25 проц. вільгаці.

Найлепшаю тэмпэратураю для дамовага грыбка можна лічыць +25° С.

Пры тэмпэратуры +37° дамовы грыбок расьці ня можа.

Тэмпэратура 45° С пры ўмове насычэньня параю паветры можа забіць міцэлі грыбка ў таўшчыні дрэва на працягу 4-5 сутак.

Нізкія тэмпэратуры дамовы грыбок пераносіць бяз шкоды для сябе: так, міцэлі грыбка, знаходзячыся ў дрэве, выносяць бяз шкоды для сябе тэмпэратуру да −37° С.

## 1. Пра распрацоўку будаўнічых лесаматар'ялаў на лесасеках.

1. Для захаваньня на лясных вучастах драўніны, якая ідзе ў рубку, ад заражэньня дамовым грыбком, трэба да распачацьця распрацоўкі вырубаць густы хмызьняк, сухастой, прыбраць павал і гнілую драўніну ад папярэдняй распрацоўкі.

Пры асеньніх і вясеньніх загатоўках, калі будуць знайдзены вучасткі, заражаныя грыбком, трэба ізаляваць іх ад здаровых вучасткаў, вырубаючы прасекі і абкружаючы такія вучасткі канавамі для папярэджаньня распаўсюджваньня грыбных цяжаў.

2. Рубку і валку дрэва рабіць з 1-га верасьня да 1-га мая.

3. Пры распрацоўцы дрэваў, захоўваючы найбольш мэтазгоднае скарыстаньне драўніны, трэба для будаўнічых і падзелачных матар'ялаў браць выключна здаровую драўніну, усю-ж драўніну заражаную грыбком разрабляць выключна на дровы.

4. Ачыстка дрэва ад кары павінна рабіцца на мясцох загатовак; ачыстка павінна быць самая старанная з выскрэбам усяго лубу, які лёгка паддаецца гнілі.

5. Адказнасьць за парушэньне правіл распрацоўкі лясных матар'ялаў ляжыць на арганізацыі, якая вядзе распрацоўку лесу, ух асобе загадчыка лесараспрацовак, кантроль за выкананьнем гэты правіл ускладаецца на мясцовага лясьнічага.

## 2. Укладка і захаваньне лесаматар'ялаў на часовых складах і пагрузачных пунктах пры лесараспрацоўках.

1. Месца для штабялёў лесаматар'ялаў павінна быць, па магчымасьці, высокае, сухое, ачышчанае ад сьмецьця і хмызняку і павінна праветрывацца з усіх бакоў. Для сьцёку вады павінны быць зроблены на ім і наўкола яго асушальныя канавы.

Каля штабялёў ня трэба дапушчаць забруджваньня грунту карою, трэскамі, апілкамі і экскрэмэнтамі людзей і жывёлы.

3. Вывезены новы лясны матар'ял забараняецца хаваць побач з старым і, асабліва, у беспасрэдным датыканьні з штабялямі дроў.

4. Каб было даволі прыцёку паветры зьнізу, ніжні рад штабялю павінен быць пакладзены на тоўстых пракладках на вышыні ад зямлі ня менш 25 сантымэтраў. Трава наўкола штабялю і пад ім, каб ня было вільгаці, павінна быць скошана.

5. Укладка штабялёў павінна быць акуратная, ня шчыльная, дапушчаючая вольнае праветраньне, для чаго паміж усімі суседнімі гарызантальнымі радамі бярвеньняў класьці пракладкі з дробнага лесу. Адлегласьць у радох паміж бярвеньнямі павінна быць ня менш 10 см.. Адлегласьць паміж штабялямі павінна быць каля 2-х мэтраў.

6. Да надыходу цяпла з штабялёў павінен быць ачышчан сьнег. Пасьля сходу сьнегу трэба добра праглядваць штабялі і, калі будзе знайдзена падазроная цьвіль, зараз-жа ўжываць адпаведныя захады да зьнішчэньня заражэньня.

7. Сплаўны лес пры выгрузцы з вады павінен быць добра ачышчан ад гразі і глею. Калі немагчыма выкочваць бярвеньні з вады зараз-жа пасьля іх прыплыцьця да пункту выгрузкі, то павінны быць ужыты захады, каб пры стаянцы лес, па магчымасьці, недатыкаўся да глею.

8. Адказнасьць за парушэньне гэтых правіл ускладаецца на ўласьнікаў лясных матар'ялаў у асобе загадчыкаў лесазагатовак ці сплаваў.

## 3. Пра парадак за хаваньня лесаматар'ялаў на сталых складах.

1. Усе склады будаўнічых лесаматар'ялаў павінны быць аддзелены ад складаў апалу.

2. Уся тэрыторыя ляснога складу павінна ўтрымоўвацца ў поўнай чыстаце, не дапушчаючы забруджаньня трэскамі, сьмецьцем, гноем. Заходы (адхожыя мясцы) на складах павінны рабіцца ў некаторай адлегласьці ад штабялёў з лесаматар'ялам.

3. Вучастак, заняты пад склад, павінен быць асушан, зрабіўшы належныя сьцёкі вады і сьцёчныя канавы. Застойваньне сьцёчнай вады на тэрыторыі складаў лесаматар'ялаў не павінна дапушчацца.

4. Праезджыя часткі на складах лесаматар'ялаў павінны быць па магчымасьці, забрукаваны і ўтрымоўвацца ў чыстаце.

5. Каб нябыло псаваньня лесаматар'ялаў трэба зараз-жа пасьля разгрузкі ўкладваць іх у штабялі.

6. Прынятыя на склад лясныя матар'ялы павінны складацца па кожнай назве, гатунку і разьмеры паасобнымі штабялямі. На кожныя 25 мэтраў паміж групаю штабялёў матар'ялаў пакідаць інтэрвалы ня менш 2,5 мэтраў, а паміж штабялямі—разрывы ня менш 1 мэт-

7. Укладку ў штабялі трэба рабіць на падкладках, скарыстоўваючы для апошніх бракаваныя, але не заражаныя грыбком, бярвеньні не танчэй 13-15 см., пры гэтым кожны наступны рад бярвеньняў укладваць з тонкіх сьлег ці стоек.

8. Пілаваны матар'ял укладваць строга па гатунках на ражы: ражы зьмяшчаць на падкладках для таго, каб дошкі ня былі бліжэй 26 см. ад зямлі. Інтэрвал паміж дошкамі ў кожным радзе пакідаць ня менш як на 1 см. Пракладкі з дошчак з ліцавога боку штабялю класьці пад ліцо дошчак, разьмяшчаючы іх адна супроць другой, пры гэтым сухія дошкі таўшчынёю да 2,5 см. укладваюцца па 8-10 штук, таўшчынёю 4 см. і таўсьцей—па 5 штук.

Пры укладцы зімою сьнег з ражаў ачышчаць да зямлі. Сырыя матар'ялы па 2,5 см. і 1,26 см. укладваюцца радамі ня больш 5 шт., па 4,0 см.—па 3 шт., 5 см. і больш—па аднэй штуцы.

9. Матар'ял высокага гатунку (сталярскі) трэба ўкладваць пад паветкаю.

10. Бракаваныя матар'ялы (незаражаныя)—стойкі і пракладкі, групуюцца на адным месцы, раскідваньне іх па складу забараняецца.

11. Штабялі дошчак павінны быць накрыты зьверху цёсам у два рады, у разьбежку, з ухілам для сьцёку з іх вады.

12. Лясны склад павінен мець зьвесткі аб месцы загатоўкі сваіх будаўнічых матар'ялаў.

13. У прыймовых актах павінны адзначацца ўсе выпадкі дастаўкі нядобраякаснага па заражанасьці грыбком лесаматар'ялу, каб весьці падлік падазроных выпадкаў.

14. Пры падазроных выпадках паяўленьня цьвілых і загнілых працэсаў у масе лесаматар'ялаў трэба, калі склад будаўнічы, паведамляць аб гэтым зараз-жа акруговаму інжэнэру, які робіць агляд, пасылаючы, калі трэба, кускі заражанага дрэва ў лябараторыі пры Інстытуце Санітарнай Тэхнікі для дасьледваньня, і ўжывае адпаведныя захады, даводзячы аб іх да ведама Інспэкцыі Рэспубліканскага Інжэнэра.

15. Калі зьявяцца на штабялёх лесаматар'ялаў цьвілыя месцы, то трэба апырскваць штабялі рашчынаю медзянага купаросу не слабей 4 проц.

16. Заражаныя лесаматар'ялы павінна абавязкова зараз—жа, пасьля іх выяўленьня, выво зіцца з складу.

17. Адказнасьць за парушэньне правіл захаваньня матар'ялаў на складах ускладаецца на загадчыкаў складаў, а ў адносінах да прыватных складаў—на ўласьнікаў іх. Кантроль за выкананьнем гэтых правіл ускладаецца на акруговых інжэнэраў.

## IV. Пра ўжыцьцё захадаў супроць распаўсюджваньня заразы дамовага грыбка на мясцох захаваньня лесаматар'ялаў пры лесапільнях і майстэрнях, а таксама на будаўніцтвах.

1. Падазрэнны па заражанасьці лесаматар'ял павінен быць аддзелены і складзены ў паасобныя правільныя штабялі.

2. Лесаматар'ял, заражаны дамовым грыбком, павінен зараз-жа аддзяляцца ад усяго іншага матар'ялу. Калі заражана і псуецца толькі частка экзэмпляру, дык павінна адразацца гэта частка ад здаровай і зараз-жа спальвацца; частка-ж, якая астаецца, павінна быць да ўжываньня прапітана ня менш 2-х разоў-якім небудзь антысэптыкам і добра прасушана. Калі грыбок не пасьпеў значна папсаваць

драўляны экзэмпляр, дык апошні можа быць прапітан антысэптыкам і пасьля добрай прасушкі ўжыт на будаўніцтва. Уся партыя лесаматар'ялу, у якой знойдзены гэтыя злосныя грыбкі, павінна быць добра прасушана і ні ў якім разе ня можа быць ужыта да справы раней, чымся ня будзе дасягнута ступень вільгаці ня больш 19 проц.

Калі будуць значна заражаны вялікія партыі лесаматар'ялу, то яны павінны быць спалены цалкам; аднак, патрэбнасьць гэтага акту павінна быць устаноўлена асобнаю камісіяю пад старшынствам і паназначэньні акруговага інжэнэра.

3. Калі будуць выяўлены на складзе будаўнічых лесаматар'ялаў якія-небудзь грыбкі шкоднікі, то вучастак складу павінен быць абгледжан камісіяю з абавязковым удзелам акруговага інжэнэру і, пасьля прызнаньня прыгоднасьці складу для далейшай эксплёатацыі, можа быць адчынен для прыйманьня на яго новых партый лесаматар'ялу, з ужыцьцем захадаў для абезаражваньня глебы складу.

## V. Пра санітарна-тэхнічныя мерапрыемствы, абавязковыя пры будаваньні і рамонце будынкаў для змаганьня з грыбкамі шкоднікамі дрэва.

### *А. Пры будаваньні і рамонце будынкаў.*

1. Дрэва для будынкаў павінна быць сухім, на колькі гэта магчыма; для захоўных драўляных частак, а іменна: балькі, абвязкі міжпаверхавыя перакрыцьці і наогул усе асноўныя драўляныя канструкцыі, якія недаступны для заўсёднагаа бгляду, дрэва не павінны мець вільгаці больш 19 проц.

2. Пры ўжываньні круглага лесаматар'ялу трэба ачышчаць яго ад астач на ім лубу. Ужываньне нядобра ачышчанага ад кары лесаматар'ялу строга забараняецца.

3. Забараняецца рабіць канструкцый, якія маюць замкнутыя прасторы, бяз іх вэнтыляцыі.

4. Усякія памяшканьні ў паўсутарэньнях і сутарэньнях павінны быць забясьпечаны праветраньнем і, па магчымасьці, дзенным сьветам.

5. Для павялічэньня вэнтыляцыі падпольля трэба злучац яго з выцяжкамі печаў, карэннымі трубамі або выцяжною вэнтыляцыяю, з пастаноўкаю трубных засовак, вывад-жа вэнтыляцыйных каналаў з падпольля беспасрэдна ў дымаходы ці дымавыя каналы забараняецца.

6. У драўляных падлогах каля ўнутраных з надворных сьцен кожнага жылога і нежылога памяшканьня трэба абавязкова рабіць падлогавыя рашоткі.

Каб вільгаць не пападала ў падпольле пры мыцьці падлогі, робячы падлогавыя рашоткі ў жылых дамох, зьмяшчаць у каменных сьценах у каналах, якія злучаюць паветра пакояў з падпольлем, а ў будынках неагнятрывалых рашоткі рабіць на ўзвышшы ад падлогі на 2 см.

7. Драўляныя падлогі не павінны шчыльна прылягаць да сьцен. Прастору паміж сьцяною і падлогаю накрываць плінтусам.

8. Бязумоўна забараняецца рабіць плітачныя, бэтонныя і асфальтавыя падлогі на драўляных падставах.

9. У тых будынках, дзе можа быць дазволена нябэтонная падстава пад падлогі, для засыпкі пад падлогу трэба ўжываць буйны пясок, жвір або сухое будаўнічае сьмецьце (бітае цэгла і рашчыны)

Забараняецца ўжываць для засыпкі накатаў коксавы шлак і попел з прычыны знаходжаньня ў іх солі калія, а таксама і з тае прычыны, што яны могуць убіраць у сябе шмат вады.

Апроч таго, ня трэба ўжываць для засыпкі матар'ялы, багатыя рознымі арганічнымі матэрыямі, а іменна: чарназём, перагной і торп; раіцца сухі сфагнум і трэпель.

Для засыпкі накатаў зьверх сьметкі ня трэба ўжываць ні сырых, ні мёрзлых матар'ялаў.

10. Пры ўкладцы ў каменных будынках драўляных балак трэба ізаляваць іх ад дзеяньня волкасьці, уводзячы пад балкі прасмаленыя падкладкі, ці робячы асмаленыя каробкі, ці абвінаючы канцы толем.

11. Забараняецца рабіць асмальваньне тарцоў драўляных балак.

12. Нармальным спосабам укладваньня драўляных падлог у ніжніх паверхах жылых будынкаў зьяўляецца падлога на лагах, якія кладуцца на цагляныя слупкі.

13. Забараняецца ўкладка падлогавых лаг і пераводаў у няжылых будынках проста на зямлі, без падкладак.

14. Пры насьцілцы падлогі трэба сачыць за добраю ачысткаю падпольля ад стружак, апілак, трэсак і інш.

15. Забараняецца ўжываць для засыпкі падпольля сьмецьце з драўлянымі стружкамі, трэскамі і астачаю арганічных матэрый.

16. Забараняецца закопваць у зямлю шулы, слупы, замяціны, вянкі і інш. без належных захадаў да перасьцярогі ад гніеньня, а іменна: асмольваньне, апальваньне і г. д.

17. Вадаправодныя трубы, што падводзяць халодную воду, на якіх можа зьбірацца вільгаць з паветра, павінны пракладацца, па магчымасьці, на каменных, бэтонных і іншых сьценах, якія ня маюць у сваёй канструкцыі дрэва.

Пры патрэбе пракладкі такіх труб на драўляных сьценах і пры праходзе імі міжпавярховых драўляных перакрыцьцяў яны павінны быць пакладзены ня бліжэй 80 мілм. ад драўляных частак і абвінуты лямцам ці палатном у два-тры рады.

18. Абтынкаваньне рубленых сьцен трэба рабіць не раней наступнага будаўнічага сэзону, пасьля пабудовы будынку і пасьля таго, як будзе ўстаноўлена, што працэс асадкі лічыцца скончаным.

19. Вышкі павінны быць забясьпечаны магчымасьцю праветрваньня іх, у выпадку патрэбы адчыненьнем слухавых вокнаў.

20. Для памяншэньня волкасьці ў пабудованых будынках ужываць наступныя захады:

а) перад пачаткам работ забясьпечыць сьцёк паверхавых вод праз адпаведную пляніроўку

б) не распачынаць пабудовы падмурку, не зрабіўшы належнага сьцёку вады ад яго на час работ і пасьля сканчэньня іх;

в) не распачынаць насьцілкі і змазкі, а тым больш засыпкі накатаў, пакуль ня будзе зроблены дах;

г) калі будаўнічыя работы вядуцца ў восень ці зімою, то трэба ўжываць спэцыяльныя захады для захаваньня ўнутраных частак будынку ад атмасфэрных асадкаў, што беспасрэдна падаюць, а таксама і ад тых, якія прыносяцца з будаўнічым матар'ялам;

д) захоўваць, па магчымасьці, драўляныя балкі ад нэмаканьня, накрываючы іх у час дажджу дошкамі пакуль ня будзе зроблены дах, асабліва ў мясцох запраўкі ў сьцены;

е) не рабіць рубкі сьцен і ўкладкі балак на непрасохшых яшчэ падмурках і сьценах;

ж) аддзяляць драўляныя часткі канструкцыі ад каменных сьцен належнымі ізалюючымі пластамі; ізаляцыю трэба рабіць з асфальту, цэмэнту з цэразітам, толю, рубэройду, асмаленых дошчак ці бяросты.

Зазначаную ізаляцыю трэба рабіць таксама і ў выпадках асмаленьня ніжніх драўляных вянкоў ці абвязак будынкаў;

з) прасушваць і праветрваць новапабудаваныя ў асеньні і зімовы час будынкі ўсімі дасгупнымі на практыцы спосабамі;

і) навакол новых будынкаў зараз-жа павінна быць скончана пляніроўка зямлі з захаваньнем патрэбных ухілаў ад будынкаў і з утварэньнем адмосткаў ці тратуараў, якія забясьпечвалі-б сьцёк вады ад цокаляй;

к) насьцілку драўлянай падлогі ў ніжніх паверхах будынкаў рабіць толькі пасьля прасушкі бэтонных асноў;

л) ахварбоўку і шпаклёўку драўлянай падлогі, калі яна зроблена з нядосыць прасушанага лесу, рабіць не раней году пасьля яе насьцілу.

21. Пры вядзеньні будаўнічых работ з асаблівай строгасьцю сачыць за недапушэньнем забруджваньня будынкаў матэрыямі жывёльнага паходжаньня, напрыклад: мачою і інш., якія асабліва спрыяюць разьвіцьцю дамовага грыбка.

22. Будынкі, у якіх, па іх прызначэньні, трудна зьнішчыць вільгаць і якія самі служаць крыніцамі яе: пральні, лазьні, сушылкі, кухні, сталоўкі, скляпы, ляднікі і г. д., трэба будаваць каменнымі, бэтоннымі, жалеза-бэтоннымі, бяз драўляных канструкцый. Калі немагчыма пабудаваць такія будынкі з іншых, апроч дрэва матар'ялаў то яны павінны быць пабудованы досыць ізалявана.

23. Цэнтральны апал ў будынках з адпаведнаю прыцёчна-выцяжною вэнтыляцыяй зьяўляецца адным з самых надзейных спосабаў супроць разьвіцьця дамовага грыбка і іншых грыбкоў—шкоднікаў драўніны.

24. Новыя будынкі павінны быць добра прасушаны да засяленьня іх і ў першы год экспалёатацыі павінны часта праветрвацца.

### *Б. У існуючых будынках.*

1. Кожны новы будынак, а асабліва папраўлены пасьля пашкоджаньня ў ім грыбком ці наогул загніласьцю драўляных частак, трэба на працягу 1-2 гадоў пэрыядычна абглядваць ня менш двух разоў, вясною і ўвосень, каб не спазьніцца з ужыцьцем захадаў, перашкаджаючых распаўсюджваньню грыбка.

2. Павінны абглядацца, галоўным чынам, тыя драўляныя часткі канструкцый, якія ня маюць натуральнага сьвету і праветрваньня, а іменна: злучэньне крокваў з маўэрлатам, падшыўкі выпускных кроквоў у драўляных будынках, маўэрлаты, балкі і накаты ў мясцох, даступных волкасьці, перагародкі і падлогі ў ванных і ўборных пакоях, драўляныя канструкцыі ў мясцох праходжаньня вадаправодных і каналізацыйных труб, перакрыцьці падвалаў пад кухнямі, дзе захоўваюцца прадукты, распаўсюджваючыя волкасьць, ніжнія вянкі драўляных будынкаў, абшыўка цокаляй,

3. Пры абглядзе трэба зварочваць асаблівую ўвагу на волкасьць каменных сьцен і прылягаючых да іх драўляных канструкцый і зараз-жа ўжываць адпаведныя захады.

4. У будынках, заражаных дамовым грыбком—шкоднікам, трэба падняць падлогу і столь, а мясцамі і тынк у тых мясцох, якія падпадаюць пад дзеяньне вільгаці і волкасьці.

5. Глыбока папсаваную ад дзеяньня грыбка ці заражаную грыбком частку драўніны трэба адрэзваць і атрыманыя абрубкі і трэскі зараз-жа спаліць.

Забараняецца карыстацца гэтаю драўнінаю, як апалам. Пасьля зьнішчэньня заражаных частак, рамантуемыя часткі павінны быць добра прасушаны перад далейшым рамонтам.

Драўляныя часткі канструкцый, якія астаюцца, асабліва тыя, што прылягаюць да зьнішчанных, трэба пакрыць антысэптыкамі:карбалінэумам Авенарыуса, мікаганатанам, сулемою і інш. Таксама павінны быць прадэзынфэкцыраваны гнёзды для новых балак і наогул усе часткі каменнай кладкі, якія датыкаліся да заражаных грыбком лесаматар'ялаў.

Для дэзынфэкцыі раіцца, дзе магчыма, ужываць акурваньне серкаю на працягу 72 гадзін у зачыненым памяшканьні.

6. Калі пад заражанаю дамовым грыбком падлогаю 1-га паверху была зямляная засыпка, дык яе трэба выкідаць да глыбіні ня менш 30 см., замяніўшы яе новаю, ці перарабіць самое падпольле, ужываючы ізаляцыйны слой.

7. Змазкі ці падсыпкі на накатах у мясцох, дзе знойдзен быў дамовы грыбок, таксама трэба зьнішчаць і рабіць новую змазку, якую накрываць пасьля прасушкі сухою засыпкаю.

8. Калі на каменных сьценах будуць знойдзены цяжы і грыбок, то зараз-жа трэба іх зьнішчаць. Шчыліны ў каменых сьценах замазваць цэмэнтам, а пасьля паверхню сьцен, дзе быў грыбок, пакрыць мікатанатанам ці іншым антысэптыкам за адзін раз.

9. Пасьля рамонту частак будынку, заражаных грыбком, адноўленыя канструкцыі павінны быць пастаўлены ў лепшыя ўмовы ў адносінах да праветраньня і сухасьці.

10. Рабочыя, скончыўшыя рамонт у будынках, заражаных грыбком, павінны пасьля зьнішчэньня заражаных частак і пасьля сканчэньня ўсіх работ добра ачышчаць свае начыньне, па магчымасьці, карыстаючыся якім-небудзь антысэптыкам.

11. Старое дрэва, калі на ім ёсьць сьляды заражэньня дамовым грыбком, не павінна ісьці на пабудоўку ці на рамонт у будынках; новае-ж дрэва, якое ідзе на рамонт і адбудоўчыя работы ў будынку, павінна быць здаровым і мець ня больш 19 проц. вільгаці.

12. Адным з самых надзейных сродкаў змаганьня з дамовым грыбком і іншымі грыбкамі-шкоднікамі ў старых будынках зьяўляецца, замест пячнога апалу, цэнтральнае з адпаведнаю прыцёчна-выцяжною вэнтыляцыяю.

13. Адказнасьць за парушэньне гэтых правіл ускладаецца на адпаведных тэхнічных кіраўнікоў пабудовы ці рамонту, а ў адносінах да пэрыядычных абглядаў існуючых будынкаў—на ўласьнікаў іх. Кантроль за выканьнем гэтых правіл ускладаецца на акруговых інжэнэраў.

## VI. Пра спосабы зьнішчэньня дамовых грыбкоў і шкоднікаў драўніны.

1. Першы галоўны спосаб зьнішчэньня грыбкоў—мэханічны, г. зн. зьніщчэньне частак дрэва, глыбока заражаных грыбком, спосабам іх выразаньня.

2. Другі спосаб—ужываньне антысэптыкаў. Антысэптыкамі пакрываюцца, спосабам прамазкі, тыя мясцы, дзе заўважана толькі паверхнае заражэньне дрэва міцэліем грыбка, а таксама тыя мясцы, у якіх былі выразаны заражаныя часткі.

У якасьці антысэптыкаў раіцца:

а) мікатанатан,

б) суляма,

в) карболінеум Авенарыуса.

Мікатанатан ёсьць мешаніна 0,75 кг. хлёрнай вапны, 1,6 кг. глаўберавай солі, 2,25 кг. салянай кіслаты, 0,0667 кг. сулямы і 43 л. вады. Гэтай колькасьці мешаніны хопіць для абмазваньня 90 кв. м. за два разы.

Абмазваньне робіцца звычайнымі малярнымі пэндзалямі, якія ўжываюцца для пабелкі сьцен.

З тае прычыны, што пры абмазваньні мікатанатанам аддзяляецца ў досыць значнай колькасьці хлёрысты газ, трэба ўжываць захады да таго, каб рабочыя не маглі ўдыхаць у сябе гэты газ (работу рабіць на вольным паветры, а ў сярэдзіне памяшканьня—пры адчыненых вокнах).

Суляма можа ўжывацца пры пакрыцьці драўляных частак у няжылых памяшканьнях. Сулемавая рашчына бярэцца складу 1/1000.

Для кантролю выкананьня абмазкі да мікатанатану і да сулемавай рашчыны прыбаўляецца невялічкая колькасьць фуксіну.

Пры ўжываньні карбалінеума Авенарыуса трэба кіравацца наступнымі правіламі.

Змазка дрэва робіцца пры дапамозе звычайнага малярнага пэндзаля, моцна абвітага жалезным дротам, бо карболінеум Аванарыуса рашчыняе смалу і пэндзаль можа раскідацца.

Апрацоўка мноства аднародных прадметаў, не надта вялікіх разьмераў, робіцца прасьцей усяго апусканьнем іх на кароткі час у налітую ў жалезную пасудзіну нагрэты карболінеум.

Пры вельмі цёплым надвор'і і пры апрацоўцы сухога дрэва не намеркаванага для закопваньня ў зямлю, досыць змазаць яго адзін раз ненагрэтым карболінеумам; пры апрацоўцы-ж ляснога матар'ялу ў халоднае надвор'е ці з сырога дрэва карбалінеум Авенарыуса трэба ўжываць абвязкова гарачым, бо гарачае масла, робячыся больш рэдкім, хутчэй і глыбей прасочваецца ў дрэва, зьнішчае ў ім вільгаць і награваньнем пашырае паветра ў канальцах драўніны, палягчаючы гэтым прасочваньне ў іх масла.

Змазка дрэва пэндзалямі павінна рабіцца, па магчымасьці, вельмі багата, асабліва-ж уважліва і да насычэньня трэба прапітваць плошчы папярэчных сячэньняў ці тарцовыя часткі, бо адрубы ці адрэзы ёсьць іменна тыя мясцы, якія перш-за-ўсё паддаюцца гніласьці і псуюцца насякомымі. Затым, асабліва ўважліва, па магчымасьці 2-3 разы, трэба змазваць гарачым карбалінеумам таксама слупы, дошкі і інш. у той частцы, дзе яны выходзяць з зямлі, бо гэтыя мясцы знаходзяцца больш-за-ўсё пад пераменным уплывам то вільгаці, то сухасьці, г. зн. пры ўмовах, найбольш спрыяючых разьвіцьцю псуючых дрэва ніжэйшых арганізмаў.

Падгніўшае трохі дрэва апрацоўваецца карболінеумам Авенарыуса такім чынам: загнілыя ці з знойдзенымі адзнакамі пачаўшайся гніласьці мясцы добра габлююцца, а затым усё дрэва моцна прапітваецца два разы гарачым (да 80⁰) карболінеумам, пасьля чаго можна быць упэўненым, што далейшая гніласьць спыніцца.

Апрацоўку карболінеумам Авенарыуса можна ўжываць да ўсякага дрэва. Для аднаразовай змазкі неапрацованай паверхні хваёвага дрэва сярэдняй сухасьці трэба звычайна ня больш 0,18 кг. на 1 кв. м.

3. Трэці спосаб--дэзынфэкцыя. Дэзынфэкцыя ўжываецца ў тых выпадках, калі зараза грыбком распаўсюджана па ўсім будынку і калі ёсьць шмат месц, маладаступных для абгляду, і няма магчымасьці ўжываць другі спосаб зьнішчэньня грыбка.

Дэзынфэкцыя робіцца акурваньнем у сярэдзіне будынку сярністым газам ці параю $40^0/_0$-нага фармаліну.

Антысэптыкі і дэзынфэкцыя зьяўляюцца сапраўднымі сродкамі, калі апроч іх, ужываецца яшчэ энэргічнае праветраньне і прасушваньне будынкаў; пад уплывам гэтых двух фактараў міцэлі грыбка хутка засыхаюць і зьнішчальная работа грыбка спыняецца.

---

## 2. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ЎВЯДЗЕНЬНЕ Ў СІЛУ НА ТЭРЫТОРЫІ БССР АБАВЯЗКОВАЙ ПАСТАНОВЫ Н. К. ПРАЦЫ СССР ЗА 10 КАСТРЫЧНІКА 1927 г. № 318 „ПРАВИЛА О МЕРАХ ПРОТИВ НЕСЧАСТНЫХ СЛУЧАЕВ ПРИ РАБОТЕ С СЕЛЬСКО-ХОЗЯЙСТВЕННЫМИ МАШИНАМИ".

Народны Камісарыят Працы БССР, на падставе арт. 46 абавязковай пастановы Н.К. Працы СССР за 10 кастрычніка 1927 г. № 318 „Правила о мерах против несчастных случаев при работе с сельско-хозяйственными машинами" (Известия НКТ СССР 1927 г., № 46—47) пастанаўляе:

Увесьці праз шэсьць месяцаў пасьля апублікаваньня гэтай пастановы паказаную вышэй абавязковую пастанову Н.К. Працы СССР у сілу на тэрыторыі БССР.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

6 сьнежня 1927 г.
№ 92.

---

Узгоднена з Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў БССР

## 3. Тлумачэньне Народнага-Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР

ПРА НЕ ПАШЫРЭНЬНЕ НА РАБОТНІКАЎ ЛЕКАВА-САНІТАРНЫХ І ВЭТЭРЫНАРНЫХ УСТАНОЎ ПАСТАНОВЫ Н. К. ПРАЦЫ і Н. К. РАБОЧА-СЯЛЯНСКАЙ ІНСПЭКЦЫІ БССР ЗА 13-га ЛЮТАГА 1925 году „АБ ПРАЦОЎНАЙ ДЫСЦЫПЛІНЕ СЛУЖАЧЫХ".

На падставе арт. 4 пастановы Н. К. Працы БССР за 4-га кастрычніка 1927 г., № 308, „Аб зацьверджаньні палажэньня аб рабочым часе ў лекава-санітарных і вэтэрынарных установах" (Известия Н. К. Труда СССР 1927 г., № 46-47) Народны Камісарыят Працы і Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР растлумачваюць:

Пастанова Н. К. Працы і Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР за 13-га лютага 1925 г., „Аб працоўнай дысцыпліне служачых“ (З. З. БССР 1925 г., № 18, арт. 165) не пашыраецца на работнікаў лекава-санітарных і вэтэрынарных устаноў.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Народны Камісар Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР **А. Калнін.**

14 студзеня 1928 г.
№ 2.

---

Узгоднена з Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў БССР.

## 4. Пастанова Нроднага Камісарыяту Працы БССР

ПРА РЭВАЛЮЦЫЙНЫЯ СЬВЯТЫ І АСОБНЫЯ ДНІ АДПАЧЫНКУ.

На падставе арт. арт. 111—113 Кодэксу Законаў аб Працы Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе устанавіць, пачынаючы з 1928 г. наступныя правілы аб парадку карыстаньня рэвалюцыйнымі сьвятамі і асобнымі днямі адпачынку:

I. Забараняецца работа ў наступныя сьвяточныя дні:

1 1-е студзеня—Новы Год і Дзень прыняцьця Канстытуцыі БССР.

2. 22-е студзеня—Дзень 9-га студзеня 1905 г. і Дзень памяці У. І. Леніна.

3. 12-е сакавіка—Дзень зьнішчэньня самаўладзтва.

4. 18-е сакавіка—Дзень Парыскай Камуны.

5. 1-е мая—Дзень Інтэрнацыяналу.

6. 7-е і 8-е лістапада—Дні Кастрычнікавай Рэвалюцыі.

*Увага 1.* Сьвяткаваньне Дня прыняцьця Канстытуцыі СССР 6-га ліпеня пераносіцца на першую нядзелю ліпеня месяца.

*Увага 2.* Сьвяткаваньне Дня вызваленьня Беларусі ад белапалякаў (ІІ-га ліпеня) пераносіцца на бліжэйшую да 11-га ліпеня нядзелю.

*Увага 3.* Тыя рабочыя і служачыя, для якіх дні, паказаныя ва ўвагах 1 і 2, зьяўляюцца рабочымі днямі, ад работы ў гэтыя дні не звальняюцца і ніякай дадатковай платы за работу ў гэтыя дні не атрымоўваюць.

II. У Міжнародны дзень работніц—8-га сакавіка—жанчыны звальняюцца ад працы ва ўсіх прадпрыемствах, установах і гаспадарках на 2 гадзіны раней звычайнага тэрміну. У прадпрыемствах, установах і гаспадарках, дзе жанчыны складаюць большасьць і дзе спыненьне іх работы павінна выклікаць спыненьне працы ўсей установы, прадпрыемства альбо гаспадаркі—работа апошніх спыняецца на 2 гадзіны раней.

У тых прадпрыемствах, дзе, па умовах вытворчасьці, работа ня можа быць спынена (тэлеграф, тэлефон, больніцы і г. д.), работніцы ад работы не звальняюцца і за работу плату атрымоўваюць узвычайным разьмеры. Работнікі альбо работніцы, якія працуюць зьдзельна або падзённа і працавалі 8-га сакавіка няпоўны рабочы дзень, атрымоўваюць за 2 гадзіны па іх тарыфнай стаўцы, а з заробку тых, якія аплачваюцца памесячна, ніякіх адлічэньняў ня робіцца.

III. Міжнародны Юнацкі Дзень сьвяткуецца ў першую нядзелю верасьня. У тых прадпрыемствах, дзе работа ў гэты дзень ня спы-

няецца, работнікі да 23 гадоў уключна звальняюцца ад работы на 2 гадзіны раней звычайнага тэрміну, у адпаведнасьці з арт. 2 гэтай пастановы.

IV. Апроч паказаных у арт. 1-м сьвяточных дзён, рабочым і служачым даюцца наступныя дні адпачынку:

## А. Асобам праваслаўнай веры:

1. Другі дзень вялікадня.
2. Ушэсьце.
3. Духаў дзень.
4. 6 жніўня—спаса.
5. 15 жніўня—прачыстая.
6—7. 25 і 26 сьнежня—каляды.

## Б. Асобам каталіцкай веры:

1. Вадохрышча.
2. Ушэсьце.
3. Божжа цела.
4. 15 жніўня—прачыстая.
5. 1-га лістапада—усіх сьвятых.
6. Непакаленнае зачацьце.
7. 25 сьнежня—каляды.

## В. Асобам іудзейскай веры:

1. Першы дзень „пэйсаху“.
2. Апошні дзень „пэйсаху“.
3. Першы дзень „швуэс“.
4. Першы дзень „рош—гашона“.
5. „Йом—кіпур“.
6. Першы дзень „шукес“.
7. Перадапошні дзень „шукес“.

*Увага.* Паказаныя ў арт. IV гэтай пастановы асобныя дні адпачынку даюцца па новаму стылю.

V. Асобныя дні адпачынку, устаноўленыя арт. 4-м гэтай пастановы, могуць давацца ў наступным парадку:

а) у тых установах і прадпрыемствах, дзе адыход з работы меншасьці рабочых якога-небудзь рэлігійнага культу выклікае спыненьне работы ўсяго прадпрыемсва альбо ўстановы, меньшасьць павінна карыстацца толькі тымі асобнымі днямі адпачынку, якімі карыстаецца большасьць;

б) там, дзе адыход меншасьці рабочых не выклікае спыненьня работы ўстановы або прадпрыемства, кожная група рабочых і служачых данага рэлігійнага культу можа скарыстаць дні адпачынку, паказаныя для яе ў арт. VI-ым гэтай пастановы.

*Увага 1.* Асобныя дні адпачынку на паасобных прадпрыемствах і ва ўстановах, у адпаведнасьці з п. п. „а“ і „б“ арт. V-га гэтай пастановы, павінны запісвацца ў правілы ўнутранага парадку.

*Увага 2.* Работнікі могуць карыстацца асобнымі днямі адпачынку, паказванымі ў арт. IV-тым гэтай пастановы незалежна ад іх рэлігійнага культу, пры гэтым, па згодзе з адміністрацыя і фабрычна-заводзкімі мясцовымі камітэтамі, гэтыя дні адпачынку могуць быць заменены іншымі днямі або адпаведна кампэнсаваны падоўжаньнем чарговага водпуску.

VI. Напярэдадні сьвят, пералічаных у арт. I-м гэтай пастановы, даўжыня рабочага дня ня можа перавышаць 6 гадзін, а напярэдадні асобных дзён адпачынку, паказаных у арт. IV-м гэтай пастановы, даўжныя рабочага дня павінна быць звычайнаю.

VII. Работа ў сьвяточныя дні і дні адпачынку (арт. арт. I і IV) ня можа быць спынена ў наступных прадпрыемствах: вадаправоднаэлектрычнай станцы, больніцах, аптэках, на тэлефонных, тэлеграфных і радыё-станцыях пажарных камандах, грамадзкіх сталоўках, а таксама ў прадпрыемствах, у якіх работа ня можа быць спынена па ўмовах вытворчасьці.

VIII. У тых прадпрыемствах і ўстановах, дзе работа паводле арт. VII ня можа быць спынена ў дні рэвалюцыйных сьвят (арт. I) і ў асобныя дні адпачынку (арт. IV), то работа ў гэтыя дні аплачваецца ў падвойным разьмеры. Калі замест работы ў сьвяточны дзень або дзень адпачынку, па згодзе з фабрычна-заводзкім мясцовым камітэтам даецца іншы дзень адпачынку, то работа ў гэтыя дні дадаткова не аплачваецца.

IX. Вылічэньняў за сьвяты і асобныя дні адпачынку з рабочых служачых, што атрымоўваюць заработную плату памесячна, ня робіцца; пры падзёнай або пагадзіннай аплаце, а таксама пры зьдзельнай аплаце, паказаныя ў арт. арт. I і IV сьвяты і асобныя дні адпачынку дадаткова не аплачваюцца.

X. Нявыхад на працу ў дні, не ўстаноўленыя гэтаю пастановаю, прыроўніваецца да прагулаў з усімі вынікамі з гэтага.

XI. Парадак карыстаньня сьвятамі і асобнымі днямі адпачынку для работнікаў відовішчных прадпрыемстваў вызначаецца пастановаю Н. К. Працы СССР за 30 сакавіка 1927 г., № 62, „О дне еженедельного отдыха работников зрелищных предприятий“ (Изв. НКТ СССР 1927 г., № 16) і пастановаю Н. К. Працы БССР за 7 ліпеня 1927 г., № 69, „Аб дне штотыднёвага адпачынку работнікаў відовішчных прадпрыемстваў“ (Бюл. СНК БССР 1927 г., № 13).

XII. З часу выданьня гэтай пастановы трацяць сілу: а) пастанова Н. К. Працы БССР за 7-га красавіка 1925 г. „Аб рэвалюцыйных сьвятах і асобных днёх адпачынку“ (З. З. БССР 1925 г., № 21, арт. 199); б) тлумачэньне Н. К. Працы БССР за 24/XII—1925 г. „Аб рэвалюцыйных сьвятах і асобных днёх адпачынку“ (газэта „Савецкая Беларусь“ за 25 сьнежня 1925 г.).

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

18 студзеня 1928 г. Сакратар Н. К. Працы БССР **А. Круглік.**

№ 3

---

Узгоднена з Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў БССР.

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### ПРА ЗЬМЕНУ АРТ. 19 ІНСТРУКЦЫІ НК ПРАЦЫ БССР ЗА 30 ЧЭРВЕНЯ 1925 г., № 5184, „АБ ПАРАДКУ НАЗНАЧЭНЬНЯ ПЭНСІЙ“

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Запісаць арт. 19 інструкцыі НК Працы БССР за 30 чэрвеня 1925 г., № 5184 „Аб парадку назначэньня пэнсій“ (Бюл. СНК БССР 1925 г., № 3) у наступнай рэдакцыі:

„Арт. 19. Назначэньне пэнсій асобам, якія страцілі працаздольнасьць з прычыны калецтва ў сувязі з працаю у наймах або з прычыны

прафэсіянальнага захварэньня, а таксама членам сям'яў памёршых з паказаных вышэй прычын,—вырашаецца камітэтам страхавой касы, калі ёсьць афіцыйныя дакумэнты аб калецтве".

2. Гэту пастанову ўвесьці ў сілу з 1 студзеня 1928 году.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Начальнік Галоўнай Управы Сацыяльнага Страхаваньня **Р. Алесін.**

20 студзеня 1928 г.
№ 4.

---

Узгоднена з Цэнтр. Саветам Прафэсіянальных Саюзаў БССР.

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

Пра ДЗЯРЖАЎНЫ МІНІМУМ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ НА КАСТРЫЧНІК 1927 г.—САКАВІК 1928 г.

Для разьвіцьця пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 5-га сьнежня 1927 г., № 385, „Аб тарыфных паясох і мінімуме зарплаты" (Известия Н.К. Труда СССР 1927 г., № 52) і ў дадатак да пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 6-га кастрычніка 1926 г., № 214-527 „Аб мінімуме зарплаты на кастрычнік1926 г.—сакавік 1927 г. (Известия Н. К Труда СССР 1926 г., № 39) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе ўстанавіць на кастрычнік 1927 г.—сакавік 1928 г. мінімум заработнай платы ў наступных разьмерах: 2-гі пояс, гарады: Менск, Гомель, Віцебск,—9 руб. у месяц 3-ці пояс—усе іншыя мясцовасьці БССР—8 руб. у месяц.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Н.К. Працы БССР **А. Круглік.**

24 студзеня 1928 г.
№ 5.

---

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ТЭРМІН СЭЗОННЫХ БУДАЎНІЧЫХ РАБОТ.

Для разьвіцьця арт. 1-га пастановы ЦВК і СНК СССР за 4 чэрвеня 1926 г. „Аб умовах працы на сэзонных работах" (З.З. СССР 1926 г., № 40, арт. 290) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

Устанавіць на 1928 год тэрмін сэзонных будаўнічых работ з 15-га красавіка да 15-га кастрычніка.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Н.К. Працы БССР **А. Круглік.**

Узгоднена: з Вышэйшым Саветам Народнай Гаспадаркі БССР:

Член Прэзыдыуму ВСНГ БССР **У. Стракоўскі.**

з Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў БССР, адносьнік за 27/І-1928 г., № 300/00/3

6 лютага 1928 г.
№ 6.

---

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА АБВЯШЧЭНЬНЕ СТАВАК ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ ДЛЯ ЎСТАНОЎ, ШТО ЗНАХОДЗЯЦЦА НА МЯСЦОВЫМ БЮДЖЭЦЕ, НА 1927-28 бюдж. год.

Народны Камісарыят Працы БССР абвяшчае ніжэй стаўкі заработнай платы для ўстаноў, што знаходзяцца на мясцовым бюджэце, устаноўленыя на падставе пастаноў СНК БССР за 14/VII-1926 г., 20/VII-1927 г. і 14-16/I-1928 г. на 1927-28 бюджэтны год.

### Нармавыя стаўкі заработнай платы для ўстаноў, што знаходзяцца на мясцовым бюджэце, на 1927-28 год.

| Н а з в ы п а с а д. | Месячн. аклад у рублёх |
|---|---|
| МЭДЫКА—САНІТАРНЫ ПЭРСАНАЛ. | |
| Лекар мэдыцынскі ў горадзе . . | 70 |
| „ „ ў раёне . . | 80 |
| „ „ заг. больніцаю . . | 85 |
| „ вэтэрынарны ў раёне . . | 80 |
| „ санітарны і школьны . . | 90 |
| Зубны лекар у горадзе . . . | 47 |
| „ „ у раёне . . . | 45 |
| Лекарскі мэдыцынскі памочнік у горадзе | 45 |
| „ „ „ у раёне. | 40 |
| „ „ заг. фэльчарскага пункту . | 43 |
| „ вэтэрынарны памочнік ў раёне . | 40 |
| Акушорка ў горадзе . . | 40 |
| „ ў раёне . . . | 38 |
| Сястра мэдыцынская ў горадзе . . | 36 |
| „ „ ў раёне . . | 33 |
| Санітар у горадзе . . . . | 26 |
| „ у раёне . . . . | 22 |
| СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫ ПЭРСАНАЛ. | |
| Акруговы аграном у Менску, Гомелі і Віцебску | 120 |
| „ „ у іншых гарадох . | 100 |
| Аграномы гарадзкіх камунальных аддзелаў у Менску, Гомелі і Віцебску | 95 |
| „ „ у іншых гарадох . | 85 |
| Раённы аграном . . . | 85 |
| Памочнік раённага агранома. . . | 65 |
| Заатэхнік раённы . . . | 65 |
| Інструктары па жывёлагадоўлі ў акруговых зямельных аддзелах . . . . | 100 |
| Інструктары па паляводству ў акруговых зямельных аддзелах у Менску, Гомелі і Віцебску | 100 |
| „ „ у іншых гарадох . | 90 |
| Інструктары па пчалярству ў акруговых зямельных аддзелах, у Менску, Гомелі і Віцебску. . | 95 |
| „ „ у іншых гарадох . | 85 |

| | |
|---|---|
| Інструктары па садоўніцтву і гародніцтву ў акруговых зямельных аддзелах у Менску, Гомелі і Віцебску . . | 95 |
| " " у іншых гарадох. . | 85 |
| Каморнікі гарадзкіх аддзелаў камунальнай гаспадаркі ў Менску, Гомелі і Віцебску. | 90 |
| " " ў іншых гарадох . . | 80 |
| Садоўнікі гарадзкіх аддзелаў камунальнай гаспадаркі . . | 65 |

КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНЫ ПЭРСАНАЛ.

| | |
|---|---|
| Настаўнік 2-х, 3-х, 4-х камплектнай школы (I ступ.) і 1 канц. сямігодкі ў горадзе . | 44 |
| " " " " ў раёне . | 42 |
| Загадчык—ён-жа настаўнік аднакамплектнай школы, загадчык 2-х,3-х камплектнай школы ў горадзе . . | 46 |
| " " " . у раёне | 44 |
| (Загадчыкі 4-х камплектн. школ у горадзе і раёне атрымоўваюць 25 проц. стаўкі настаўнікаў школы I ступ.) . . . | — |
| Загадчыкі сямігодак і школ II ступ., настаўнікі II канц. сямігодак і школ II ступ. | 60 |
| Загадчыкі і настаўнікі вячэрніх школ для дарослых і рабочай моладзі падвышан. тыпу, школ сялянскай моладзі, прафтэхнічных школ у горадзе і на раёне . . | 60 |
| (Загадчыкі школ сялянск, моладзі—аграномы, атрымоўваюць стаўку раённага агранома). | — |
| Настаўнікі школ малапісьменных і лікпунктаў у горадзе . . . . | 40 |
| у раёне . . . . | 36 |
| Выхавальнікі дзіцячых дамоў, садоў і дзенных дзіцячых прытулкаў у горадзе . | 40 |
| у раёне . . . | 36 |
| Загадчыкі народных дамоў і клюбаў . | 40 |
| Хатнікі . . . . | 38 |
| Бібліатэкары ў горадзе . . . | 42 |
| " ў раёне . . . | 38 |

МІЛІЦЫЯ.

| | |
|---|---|
| Начальнік раённай міліцыі . . . | 60 |
| Памочнік начальніка раённай міліцыі.. | 55 |
| Кварт. наглядчык . . . . | 45 |
| Пам. кварт. наглядчыка . . . | 40 |
| Стар. міліцыянэр у горадзе . . | 40 |
| у раёне . . | 37 |
| Малодшы міліцыянэр у горадзе . . | 37 |
| у раёне . . | 34 |

| | |
|---|---|
| Конны міліцыянэр . . . . | 38 |
| Інспэктар крымінальнага вышуку . | 70 |
| Старшы агэнт крымінальнага вышуку . | 52 |
| Малодшы— „ „ „ . | 45 |
| Загадчык арыштнага памяшканьня ў Менску | 50 |
| „ „ „ у Гомелі і Віцебску | 45 |
| „ „ „ у іншых гарадох | 40 |

СУДОВЫ ПЭРСАНАЛ.

| | |
|---|---|
| Народны судзьдзя ў гарадох . . | |
| Менску, Гомелю і Віцебску . . | 90 |
| „ у іншых гарадох. | 70 |
| „ у раёне . . | 65 |
| Народны сьледчы ў Менску, Гомелі і Віцебску . . | 70 |
| „ „ у іншых гарадох. | 60 |
| Судовы выканавец у Менску . . | 45 |
| „ „ у іншых гарадох . | 40 |

АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ ПЭРСАНАЛ.

*(Кіруючая група).*

| | |
|---|---|
| Старшыні акруговых выканаўчых камітэтаў у Менску, Гомелі і Віцебску. . | 183 |
| Члены прэзыдыумаў акруг. вык. камітэтаў у Менску, Гомелі і Віцебску . | 160 |
| „ „ „ у іншых гарадох. | 143 |
| Старшыні гарадзкіх саветаў у Менску, Гомелі і Віцебску . . | 160 |
| „ „ у іншых гарадох. | 143 |
| Адказныя сакратары гарадзкіх саветаў у Менску, Гомелі і Віцебску . . . | 143 |
| „ „ у іншых гарадох. | 128 |
| Начальнікі адміністр. аддзелаў у Менску. Гомелі і Віцебску . . | 160 |
| „ „ у іншых гарадох. | 143 |
| Памочнікі начальнікаў адм. аддзелаў ва ўсіх гарадох . . . . . | 128 |
| Памочнікі начальнікаў крымінальнага вышуку ва ўсіх гарадох . . | 100 |
| Акруговыя інспэктары - народн. асьветы, аховы здароўя, сац. забясьпеч., мясцовай прамысловасьці, камунальнай інспэкцыі у Менску, Гомелі і Віцебску . . | 160 |
| у іншых гарадох . | 143 |
| Старшыні каміт. сял. т-ва ў узаемадапамогі ў Менску, Гомелі і Віцебску. | 100 |
| „ „ у іншіх гарадох . . | 75 |
| Загадч. аддз. камун. гаспадаркі ў Менску, Гомелі і Віцебску . | 160 |
| „ „ у іншых гарадох . | 143 |

| | |
|---|---|
| Загадчык нярухомай маемасьці ў Менску, Гомелі і Віцебску . | 120 |
| „ „ у іншых гарадох . | 90 |
| Загадч. акр. зям. аддзелаў у Менску, Гомелі і Віцебску . | 160 |
| „ „ у іншых гарадох . | 143 |
| Нам. заг. зям. адз. у Менску, Гомелі і Віцебску | 143 |
| „ „ у іншых гарадох . | 128 |
| Старшыні раённых выкан. камітэтаў . | 90 |
| Члены „ „ „ . . | 60 |
| Старшыні сельскіх саветаў . . | 28 |
| Сакратары „ „ . . . . | 28 |

ІНСПЭКТАРСКА—АРГАНІЗАЦЫЙНЫ ПЭРСАНАЛ.

| | |
|---|---|
| Інструктары акругов. выкан. камітэтаў у Менску, Гомелі і Віцебску . . | 90 |
| “ „ у іншых гарадох . . | 75 |
| Інструктары—рэвізоры адміністрац. аддзелаў | 70 |
| Інспэктары палітасьветы . . . . | 128 |
| Школьныя інспэктары . . . . | 100 |
| Раённыя інспэктары па народнай асьвеце . | 85 |
| Інструктары піанэр-руху ў Менску, Гомелі і Віцебску . . | 65 |
| „ „ у іншых гарадох . | 50 |
| „ фізкультуры . . . . . | 60 |
| Інспэктары па ахове мацяры і дзіцяці ў Менску, Гомелі і Віцебску . . | 100 |
| „ „ „ у іншых гарадох . | 90 |
| Гарадзкія інспэктары па ахове здароўя. . | 120 |
| Пажарныя інспэктары ў Менску, Гомелі і Віцебску . . | 90 |
| „ „ у іншых гарадох . | 75 |
| Юрысконсульты акр. выкан. камітэтаў у Менску, Гомелі і Віцебску . . | 120 |
| „ „ „ у іншых гарадох . | 100 |
| Юрысконсульты адміністр. аддз. і гарадзкіх камунальных аддзелаў у Менску, Гомелі і Віцебску. . | 100 |
| „ „ у іншых гарадох . | 90 |

КАНЦЫЛЯРСКА—СПРАВАВОДЧЫ ПЭРСАНАЛ.

| | |
|---|---|
| Тэх. сакратары акр. выкан. камітэтаў у Менску Гомелі і Віцебску . . | 75*) і 65 |
| „ „ „ у іншых гарадох | 65*) і 55 |
| „ „ гар. саветаў і акруг. інспэкц. мясц. прамысловасьці ў Менску, Гомелі і Віцебску | 65 |
| „ „ у іншых гарадох . | 55 |

*) Першым сакратаром.

| | |
|---|---|
| Тэхнічн. сакратары гар. аддз. кам. гасп. і акр. зям. аддз. ў Менску, Гомелі і Віцебску | 75 |
| „ „ „ у іншых гарадох . . | 55 |
| „ „ нар. судоў у Менску, Гомелі і Віцебскў . . . | 60 |
| „ „ „ у іншых гарадох . . | 50 |
| „ „ „ у раёнах . . . | 50і45 |
| Пам. сакратара нар. суда ў гарадох . . | 45 |
| „ „ „ у раёнах . . | 40 |
| Стар. справаводы ў Менску, Гомелі і Віцебск. | 50 |
| „ „ у іншых гарадох . . | 40 |
| „ „ у раёнах . . . | 35 |
| Справаводы ў Менску, Гомелі і Віцебску . | 37 |
| „ у іншых гарадох . . . | 30 |
| „ у раёнах . . . . . | 28 |
| „ у сельскіх саветах . . . | 24 |
| Рэгістратары і канторшчыкі ў Менску, Гомелі і Віцебску . . | 32 |
| „ „ у іншых гарадох. | 28 |
| „ „ у раёнах . . . | 25 |
| Машыністкі ў Менску, Гомелі і Віцебску | 42 |
| „ у іншых гарадох . . . | 37 |
| „ „ у раёнах . . . | 30і35 |
| Інфарматары ў Менску, Гомелі і Віцебску | 65 |
| „ у іншых гарадох . . . | 55 |
| Загадчыкі сакрэтн. частак у Менску, Гомелі і Віцебску . | 85 |
| „ „ „ у іншых гарадох . | 75 |
| Архіварысы—загад. самаст. архіваў . . | 72 |
| Іншыя архіварысы . . . . . . | 45 |
| Раённыя статыстыкі . . . . . | 40 |
| Справаводы—статыстыкі акруг. інспэкц. мясцовай прамыс. у Менску, Гомелі і Віцебску | 50 |
| „ у іншых гарадох . . | 40 |
| Статыстыкі ў Менску, Гомелі і Віцебску | 60 |
| „ у іншых гарадох . . . . | 45 |
| Начальнікі агульнаадміністр. частак адміністр. аддзелаў у Менску, Гомелі і Віцебску | 75 |
| „ „ у іншых гарадох . . | 60 |
| Загадчык стала агульнага нагляду . . | 75 |
| „ чужаземнага стала ў Менску, Гомелі і Віцебску . . | 75 |
| „ „ „ у іншых гарадох. | 55 |
| „ ЗАГС-ам у Менску, Гомелі і Віцебску | 75 |
| Загадчык ЗАГС-ам у іншых гарадох . | 55 |
| „ адрасна-пашпартнага стала ў Менску, | 55 |
| „ „ „ Гомелі і Віцебску. . | 50 |

| | |
|---|---|
| Загадчык адрасна—пашпартнага стала ў іншых гарадох | 40 |
| „ камэраю рэчав. довадаў у Менску, Гомелі і Віцебску | 45 |
| „ „ „ у іншых гарадох | 35 |
| „ жылішчн. стала ў Менску, Гомелі і Віцебску | 75 |
| „ „ „ у іншых гарадох | 50 |
| **РАХУНКОВА—БУХГАЛЬТЭРСКІ ПЭРСАНАЛ.** | |
| Рахункавод у Менску, Гамелі і Віцебску | 45 |
| „ у іншых гарадох | 37 |
| „ у раёне | 33 |
| Ст. Бухгальтар у Менску, Гомелі і Віцебску | 100 |
| „ „ у іншых гарадох | 80 і 90 |
| Бухгальтары ў Менску, Гомелі і Віцебску. | 75 |
| „ у іншых гарадох | 60 |
| Бугалтэры акр. зям. аддз. у Менску, Гомелі і | 85 |
| „ Віцебску у іншых гарадох | 60 |
| Бухгальтары гар. аддз. кам. гасп., дзе ў штатах няма ст. бухгальтараў. | 90 |
| Бухгальтары—інструктары акруг. інспэкц. мясцов. прамыслов. у Менску, Гомелі і Віцебску | 120 |
| „ „ „ у іншых гарадох | 90 |
| Бухгальтары раённых фін. частак | 60 |
| Пам. бухгальтар. у Менску, Гомелі і Віцебску | 60 |
| „ „ у іншых гарадох | 50 |
| „ „ у раёне | 45 |
| Касіры ў раёнах | 45 |
| **ГАСПАДАРЧА—АБСЛУГОЎВАЮЧЫ ПЭРСАНАЛ.** | |
| Загадчыкі гаспад. акр. выкан. камітэтаў у Менску, Гомелі і Віцебску | 50 |
| „ „ у іншых гарадох | 45 |
| Начальнікі гаспад. адміністрац. аддзелаў у Менску, Гомелі і Віцебску | 72 |
| „ „ у іншых гарадох. | 60 |
| Шофэры ў Менску, Гомелі і Віцебску | 75 |
| „ у іншых гарадох | 50 |
| Кучары (з нармальным рабочым днём) у Менску, Гомелі і Віцебску | 30 |
| „ „ „ у іншых гарадох | 25 |
| Кур'еры, прыбіральшчыкі, дворнікі. апальшчыкі акруг. аддзелаў у Менску, Гомелі і Віцебску | 27 |
| „ „ „ у іншых гарадох | 23 |
| „ „ „ у раёне | 17 |
| Тэхнічныя работнікі лекавых установ і установ нар. асьветы ў Менску | 27 |
| „ „ „ у іншых гарадох | 23 |
| „ „ „ у раёне | 17 |
| Апальшчыкі паравога апалу | 50 |
| Кухаркі ў Менску, Гомелі і Віцебску | 30 |
| „ у іншых гарадох | 28 |
| „ у раёне | 22 |

| | |
|---|---|
| Прачкі ва ўсіх гарадох . . . . | 27 |
| „ у раёне . . . . . | 22 |
| Судамойкі ў Менску . . . . | 27 |
| „ ва ўсіх іншых гарадох . | 25 |
| „ у раёне . . . . | 22 |
| Апальшчыкі ў Менску, Гомелі і Віцебску | 27 |
| „ у іншых гарадох . . | 23 |
| „ у раёне . . . | 22 |
| Няньки і мамкі ў Менску . . . | 27 |
| „ „ у іншых гарадох . . | 25 |
| „ „ у раёне . . . | 22 |

РОЗНЫЯ

| | |
|---|---|
| Тэхнікі гар. аддзел. кам. гаспадаркі, акруг. інспэкц. мясц. прамысловасьці . . | 100 |
| „ у раёнах . . . | 60 |
| Рынкавыя і жылішчныя агэнты ў Менску, Гомелі і Віцебску . . | 40 |
| „ „ у іншых гарадох . | 35 |
| Загадчыкі муніцыпаліз. дамоў ў Менску, Гомелі і Віцебску . - | 55 |
| „ „ „ у іншых гарадох. | 50 |

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Н. К. Працы БССР **А. Круглік.**

10 лютага 1928 г.
№ 10.

---

## 9 Часовыя правілы выданыя Народным Кмісарыятам Працы БССР.

ПРА МЕРЫ ПАПЯРЭДЖВАНЬЯ НЯШЧАСНЫХ ВЫПАДКАЎ НА ЛЕСАЗАГАТОЎЧЫХ РАБОТАХ (ВЫДАНЫ НА ПАДСТАВЕ ПРАПАНОЎ ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ ПРЫ СНК БССС ЗА 6 ЛЮТАГА 1928 г., № 351.823.213 65.)

Народны Камісарыят Працы БССР для разьвіцьця арт. 139 Кодэксу Законаў аб Працы пастанаўляе зацьвердзіць наступныя „Часовыя правілы пра меры папярэджваньня няшчасных выпадкау на лесазаготоўчых работах:“

1. Кожная дзялянка павінна быць падзелена на паі (часткі, вучасткі). Асобныя групы рабочых павінны быць разьмеркаваны на дзялянкі на такой адлегласьці адна ад другой і з такім разьлікам, каб была выключана магчымасьць паданьня дрэў на суседнія вучасткі.

Мясцы астаноўкі возчыкаў з коньмі павінны быць на такой адлегласьці ад месца валкі, каб звальваемыя дрэвы не маглі падаць на мясцы іх стаянкі.

2. Забараняецца адначасная валка і вывазка, ці валка і распрацоўка (акорка, цёска) у аднэй частцы дзялянкі. Мясцы, адкуль дазваляецца вывазка, павінны знаходзіцца ня бліжэй 80 мэтраў ад месца, дзе звальваюцца дрэвы. Мясцы распрацоўкі ад месц валкі павінны знаходзіцца ня менш, як на такой-жа адлегласьці.

3. Калі пры адначаснай валцы і вывазцы з розных частак аднэй дзялянкі дарога для вывазкі праходзіць праз месца, дзе звальваюц-

ца дрэвы, дык спыняецца адна з работ (валка або вывазка) да сканчэньня другой або робіцца аб'ездная дарога.

4.Пры наяўнасьці ў распрацоўваемай дзялянцы праезджай дарогі павінны выстаўляцца на абодвых канцох дзялянкі на дарозе рагаткі з надпісам аб тым, каб праезджы гучным голасам папярэджваў аб сваім праездзе рабочых, занятых валкаю дрэў.

5. У межах кожнай дзялянкі работы па валцы дрэў павінны весьціся ў парадку строгай паступовасьці з паступовым пераходам ад высечаных месц да нявысечаных.

6 Забараняецца валка дрэў у час моцнага ветру з зьменным напрамкам, калі не магчыма прадугледзіць у які бок упадзе звальваемае дрэва.

7. Раней, чым пачаць сьпільваць дрэва, трэба падрубаць яго сякерай на $1/4$ таўшчыны з таго боку, у які мяркуецца валіць дрэва. Пры гэтым падрубаць трэба некалькі ніжэй намечанага прапілу.Забараняецца падрубаць дрэва з трох або чатырох бакоў (кругам, шылам).

8. Пры валцы дрэва рабочыя павінны разьмяшчацца з бакоў.

9. Валка дрэў з корнем павінна праводзіцца пры дапамозе арканаў.

10. Забараняецца пакідаць зваленае дрэва завісшым на другім дрэве. Калі сьпілаванае дрэва завісьне на другім дрэве, якое нельга валіць (візірнае, семянное) то трэба ад завісшага дрэва адпілаваць зьнізу чурак і карыстацца вагай.

11. Забараняецца зьбіваць завісшае дрэва валкай на яго суседніх дрэў.

12. Сукі ў зваленым дрэве павінны адрубацца шчыльна каля ствала дрэва астрыём сякеры, а не абухам.

13. Дрэвы трэба валіць у адзін бок.

*Увага.* Пры валцы крывых дрэў, калі валка ў адзін бок не магчыма, дазваляюцца адступленьні ад гэтага артыкулу.

14. Калі трэба валіць надхіленыя дрэвы у бок працілеглы нахілу, то трэба ўжываць арканы або падпоркі.

15. Работнікі павінны загадзя ўмаўляцца, хто з моманту перад паданьнем дрэва прыбірае пілу.

16.Пры папярочнай расьпілоўцы дрэва на бярвеньні і дровы, укладка дрэва на падкладкі павінна рабіцца пры дапамозе вагі.

17. Пры ручной расьпілоўцы калод у даўжыню, калоды трэба падымаць на козлы вяроўкамі па покацях.

18. Складка бярвеньня ў бунты павінна рабіцца пры дапамозе вяровак і покацяй, прычым вышыня бунта не павінна быць больш за $1^3/_4$ мэтра.

19. Забараняецца пры ўкладцы, скатцы і пагрузцы бярвеньняў стаяць з бакоў нахілу, г. зн. на тых бакох адкуль цягнуць або куды спускаюць бервяно.

20. Бярвеньні і калоды павінны класьціся на пракладкі ўпаўне забясьпечваючыя немагчымасьць раскатваньня бунта.

21. У мясцох, дзе вядуцца лесапрамысловыя работы, павінны знаходзіцца аптэчкі з наборам патрэбных лекарстваў і перавязачных матар'ялаў для аказаньня першай мэдыцынскай дапамогі пры раненьнях і калецтве.

22. Нагляд і адказнасьць за выкананьне гэтых правіл ускладаецца на спэцыяльна выдзеленых адміністрацыяю работ асоб з ліку дзясятнікаў, прыёмшчыкаў, іх памочнікаў.

*Увага.* Забараняецца ўскладаньне нагляду і адказнасьці, павод ле гэтага артыкулу, на ўпаўнаважаных арцеляй і групы рабочых.

23. Гэтыя правілы павінны быць вывешаны ва ўсіх мясцох работы, у канторах на мясцох найму, разьлікаў, далучаны да групавых працоўных дагавораў; пры найманьні на працу ўсе рабочыя павінны быць азнаёмлены з гэтымі правіламі.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк**

Сэкратар Н.К. Працы БССР **А. Круглік**

9 лютага 1928г.
№ 7

## 10. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР.

ПРА ПАРАДАК АПЛАТЫ ЖАНЧЫН ЗА ПРАЦУ Ў МІЖНАРОДНЫ ЖАНОЧЫ ДЗЕНЬ

Для разьвіцьця арт. 1 і 2 пастановы НКПрацы Саюзу ССР за 27-га лютага 1926 г., № 48/5, „О продолжительности рабочего дня женщин—день 8-го Марта“ (Известия НКТ 1926 г., № 9), Народны Камісарыят Працы БССР растлумачвае, што ў тых прадпрыемствах, дзе жанчыны працуюць 8-га сакавіка поўны рабочы дзень, 2 гадзіны для тых, што аплачваюцца зьдзельна і падзённа павінны даплачвацца ў разьмеры пагадзінай стаўкі за кожную гадзіну працы.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

12 лютага 1928 г.
г. Менск.

## 11. Інструкцыя Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры Народным Камісарыяце Працы БССР

(На скасаваньне пастановы РССС за 25 красавіка 1927 г., № 31 II).

ПРА МЕРАПРЫЕМСТВЫ ДЛЯ ЗМАГАНЬНЯ С ПРАГУЛАМІ

Для разьвіцьця пастановы СНК СССР за 15 студзеня 1927 году „Аб мерапрыемствах па барацьбе з прагуламі“ (З. З. СССР 1927 г., № 13, арт. 134), Савет Сацыяльнага Страхаваньня пры Н. К. Працы БССР пастанавляе:

1. Акруговыя страхавыя касы разам з мясцовымі органамі аховы здароўя павінны ўжыць захады да таго, каб усе віды амбуляторнай дапамогі, мэтадаў дасьледваньня і лячэньня рабіліся застрахаваным данай акругі ў нерабочы час.

2. У рабочы час, як правіла, павінны абслугоўвацца, галоўным чынам, члены сем'яў застрахаваных, беспрацоўныя, інваліды і іншыя кантынгенты хворых, якія не зьвязаны з працаю ў прадпрыемствах і установах.

3. Рабочыя і служачыя ў рабочы час павінны прымацца толькі ў наступных выпадках:

а) калі яны раптам захварэюць і хвароба перашкаджае далейшай працы альбо патрабуе тэрміновай дапамогі: цеча крыві, харканьне кроўю, няпрытомнасьць, значнае павышэньне тэмпэратуры і інш;

б) пры траўматычным пашкоджаньні;

в) пры ўсякіх вострых атручэньнях;

г) калі па характару самога лячэньня, мэдыцынская дапамога

павінна рабіцца ў дзенныя гадзіны, як: дасьледваньне страўнікавага соку ці крыві, прамываньне страўніка і інш;

д) калі складанасьць мэтадаў лячэньня патрабуе яўкі хворага ў лекавыя ўстановы ў вячэрнія, а таксама і ў ранішнія гадзіны.

4 Калі часовая непрацаздольнасьць застрахаванага выклікана вострым ап'яненьнем ці параненьнем, якое зьяўляецца вынікам ап'яненьня, то бальнічны лісток выдаецца з абавязковым паказаньнем прычыны, якая выклікала непрацаздольнасьць.

5. Калі прычынаю часовай непрацаздольнасьці зьяўляецца вострае ап'яненьне альбо дзейнасьць застрахаванага, якая выклікана ап'яненьнем яго (бойка, раненьні і г. д.), прычым непрацаздольнасьць цягнецца ня больш 3-х дзён, то страхавая каса мае права не выдаваць дапамогі па часовай непрацаздольнасьці за ўвесь пэрыад непрацаздольнасьці альбо частку гэтага пэрыаду (за 1-2 дні і г. д.).

6. Калі часовая непрацаздольнасьць, выкліканая прычынамі, паказанымі ў арт. 4 гэтай інструкцыі, цягнецца больш 3-х дзён, то страхавая каса абавязана выдаць дапамогу, пачынаючы з 1-га дня хваробы.

7. Страхавыя касы могуць поўнасьцю альбо часткова пазбаўляць дапамогі па часовай непрацаздольнасьці застрахаваных, віноўных у скарыстаньні водпуску данага для лячэньня не на прызначэньне.

8. Кантроль за асобамі, атрымаўшымі водпуск па хваробе, павінен рабіцца даверанымі лекарамі страхавых кас і аб кожным выпадку няправільнага скарыстаньня водпуску складаецца акт і заразжа пасылаецца страхавой касе.

9. Аб кожным асобным выпадку прымушаньня даць водпуск альбо „нажыму“ на лекараў лекары і лячэбныя ўстановы павінны у працягу 24 гадзін паведаміць адпаведныя страхавыя касы і саюзы.

10. Ва ўсіх выпадках яўнага злоўжываньня адпускамі страхавыя касы, апроч пазбаўленьня віноўных дапамогі, павінны прыцягваць іх да крымінальнай адказнасьці.

11. Лекараў, якія ня выконваюць гэтых правіл, страхавыя касы могуць праз органы аховы здароўя караць у дысцыплінарным парадку або прыцягваць да крымінальнай адказнасьці.

12. Пытаньне аб пазбаўленьні дапамогі, а таксама аб разьмеры дапамогі, які павінен затрымоўвацца з прычыны таго, што непрацаздольнасьць зьвязана была з ап'яненьнем або з прычыны скарыстаньня водпуску не на прызначэньне, у кожным асобным выпадку павінна вырашацца пастановаю камітэту (або прэзыдыуму) страхавой касы.

Камітэт страхавой касы пры вырашэньні пытаньня аб пазбаўленьні дапамогі і аб суме, якая павінна затрымоўвацца, павінен абавязкова браць пад увагу агульныя ўмовы жыцьця застрахаванага, яго сямейны стан, прычыны, выклікаўшыя парушэньне прадпісаньня лекара, і г. д.

*Увага.* Скаргі на пастановы камітэту страховай касы аб пазбаўленьні дапамог павінны разглядацца Галоўным Кіраўніцтвам Сацыяльнага Страхаваньня, пастановы якога зьяўляюцца канчатковымі.

13. Аплата па бальнічных лістках павінна рабіцца паводле існуючых правіл аб тэрмінах аплаты дапамогі па часовай непрацаздольнасьці.

Старшыня Рэспубліканскага Савету
Сацыяльнага Страхаваньня пры Н. К. Працы БССР **Р. Алесін.**

Адказны Сакратар РССС пры НК Працы БССР **М. Давідовіч.**

15 снежня 1927 г.

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА ЎСТАНАЎЛЕНЬНЕ ЦЭН НА МІНЭРАЛЬНАЕ ЎГНАЕНЬНЕ НА 1927—28 ГОД.

На падставе п. п. „м“ і „о“ арт. 4 „Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Ўнутранага Гандлю БССР“ і пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 26 лістапада 1927 г., № 288, Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць для БССР пры водпуску насельніцтву наступныя адпускныя цэны на мінэральнае ўгнаеньне:

| | | |
|---|---|---|
| Супэрфасфат звычайны 14 проц. | 29 р. 85 к. за тону | У тары франко раённы склад пры чыгуначн. станцыі або рэчнай прыстані. |
| Сульфат-амоні | 97 р. 60 к. „ „ | |
| Фасфарытная мука | 15 р. — „ „ | |
| Касьцяная мука | 30 р. — „ „ | |

2. Паказаныя ў п. 1 гэтай пастановы цэны ўвесьці ў сілу з 1/X—1927 г.

3. Вінаватыя ў невыкананьні паказанай пастановы прыцягваюцца да судовай адказнасьці паводле арт. арт. 106 і 141 Крымінальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **З. Маза.**

20 сьнежня 1927 г.
№ 61.

## 13. Пастанова Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР і Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту Шляхоў СССР пры СНК БССР.

ПРА ПАРАДАК КАРЫСТАНЬНЯ ШОСАМІ І ГРУНТАВЫМІ ДАРОГАМІ ДЗЯРЖАЎНАГА І МЯСЦОВАГА ЗНАЧЭНЬНЯ.

Для аховы шосаў і грунтавых дарог дзяржаўнага і мясцовага значэньня і штучных дарожных пабудоў, што знаходзяцца пад ведамам дарожных органаў Н. К. Шляхоў і Н. К. Унутраных Спраў па належнасьці, ад псаваньня і руйнаваньня, Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР і Ўпаўнаважаны Н. К. Шляхоў пры СНК БССР пастанаўляюць:

1. Забараняецца езьдзіць па бакох шосаў або брукаў, а таксама ставіць падводы ў канавах па бакох дарог і зьязджаць з дарог не па зьездах, спэцыяльна для гэтага зробленых.

2. Пры перавозцы па шосах і грунтавых дарогах важкіх цяжараў—машын, лакамабіляў, катлоў і інш., якія пагражаюць сваею вагаю цэласьці дарожных пабудоў, уласьнікі правазімага цяжару або асобы, што іх замяняюць, павінны браць ад дарожнай адміністрацыі, у падпарадкаваньні якой знаходзяцца гэтыя пабудовы, дазвол на правоз гэтых цяжараў.

3. Язда па мастох павінна рабіцца павольна. Вайсковыя каманды, а таксама і арганізаваныя паходы, павінны праходзіць па мастох ня ў ногу.

4. Забараняецца правозіць па дарогах бораны, сохі і плугі без адпаведных калёсных прыстасаваньняў, а таксама пры ўзорваньні палёў выязджаць на дарогу з рыючымі машынамі.

5. Забараняецца вазіць доўгія лесаматар'ялы зімой без падсанак, а летам бяз роспускаў, а таксама ўкладаць рэчы даўжынёю больш 2

мэтраў папярок вазоў, каб не перашкаджаць вольнаму і бясьпечнаму праезду іншых падвод.

6. Пераезд праз шосы і зьезд з шосаў ў бок робіцца толькі па зробленых для гэтай мэты пераездных праз шосавыя равы мосьціках ці зьездах. Новыя пераезды робяцца з дазволу дарожнай адміністрацыі і па паказанаму апошняй тыпу за кошт устаноў, асоб і арганізацый, якім патрэбны гэтыя пераезды.

7. Пераездныя праз равы мосьцікі, якія вядуць да ўладаньняў прыватных асоб, упарадкоўваюцца і трымаюцца апошнімі ў чыстаце і спраўнасьці, з захаваньнем тэхнічных правіл і патрабаваньняў тэхнічнага нагляду.

8. Забараняецца спыняць на шосах на начоўку абозы і гурты жывёлы на мясцох не адведзеных дарожнаю адміністрацыяю.

9. Забараняецца пасьвіць на паласе дарожнага адводу і ўзмоцненых равох буйную і дробную жывёлу. Перагон праз шосы жывёлы на пашу робіцца ў мясцох, дзе ёсьць пераездныя мосьцікі, ці ў мясцох, паказаных дарожнаю адміністрацыяю.

10. Забараняецца раскладаць агонь каля дарожных маставых пабудоў на адлегласьці менш 100 мэтраў без дазволу дарожнай адміністрацыі, а таксама курыць на мастох.

11. Забараняецца псаваць брук, . браць каменьні, ламаць і раскрадаць жалезныя, драўляныя і інш часткі дарожных пабудоў, мастоў, труб, пераездных прылад, зьнішчаць агарожы на шляху, маставыя тумбы, надолбы, поручні, а таксама межавыя, кілёмэтравыя, маставыя і інш. дарожныя знакі.

12. Забараняецца скарачаць шырыню існуючай дарогі заворкаю, перакопваць або засыпаць прыродныя і штучныя вадаадводы каля мастоў, трубы і палатно дарогі, забудоўваць паласу адводу, капаць на ёй студні, ямы, капаць пясок і гліну, а таксама забруджваць палатно дарогі і равы сьмецьцём.

13. Забараняецца касіць траву і рубаць лес на абрэзах без дазволу дарожнай адміністрацыі, рабіць патравы, а таксама псаваць і зьнішчаць зялёныя насаджэньні.

14. Парушэньне правіл, паказаных у пастанове, караецца ў адміністрацыйным парадку штрафам да 100 руб. або прымусовымі работамі да 30 дзён.

15. Наўмыснае псаваньне палатна дарогі і дарожных пабудоў, а таксама крадзеж матар'ялаў (каменьняў, лесу і інш.) і частак дарожных пабудоў караецца ў судовым парадку паводле арт. арт. 180 і 196 Крымінальнага Кодэксу.

16. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на органы міліцыі, сельскія саветы і дарожныя арганізацыі.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Нам. Упаўнаважанага Н. К. Шляхоў СССР
пры СНК БССР **А. Іваноў.**

9-га лютага 1928 г.

## 14. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

### ПРА ПАРАДАК ВЫСЯЛЕНЬНЯ АСОБ, ЯКІЯ САМАВОЛЬНА ЗАНЯЛІ ПАМЯШКАНЬНІ, ПЕРАДАНЫЯ ЖЫЛІШЧНА-АРЭНДНЫМ ТАВАРЫСТВАМ.

*Усім судовым органам і інспэктурам камунальнай гаспадаркі.*

У практыцы судовых і адміністрацыйных устаноў узьніклі наступныя пытаньні, зьвязаныя з ужываньнем пастановы ЦВК і СНК БССР за 19 лютага 1927 году „Аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў у гарадох і мястэчках“ (З.З. БССР 1927 г., № 12, арт. 42):

1) хто павінен даваць дазвол на заняцьце памяшканьня, пераданага жылішчна-арэнднаму таварыству і

2) у якім парадку робіцца высяленьне грамадзян, якія пасяліліся ў такіх памяшканьнях без належнага дазволу.

Для папярэджваньня непаразуменьняў Народныя Камісарыяты Юстыцыі і Унутраных Спраў прапануюць судовым установам і камунальным аддзелам, пры вырашэньні паказаных вышэй пытаньняў, кіравацца наступнымі паказаньнямі:

1. Правы і абавязкі жылішчна-арэндных каперацыйных таварыстваў устанаўляюцца артыкуламі 3—12 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР за 19-га жніўня 1924 г. аб жылішчнай капярацыі (З.З.СССР 1924 г., № 5, арт. 60), а таксама тыповым статутам такіх таварыстваў З.З. БССР 1925 г., № 12, арт. 103).

2. Як можна бачыць з арт. 3 першай з паказаных у п. 1 пастаноў, жылішчна-арэндныя каперацыйныя таварыствы арганізуюцца для скарыстаньня муніцыпалізаваных дамаўладаньняў, якія аддаюцца ім ў наймы органамі мясцовай гаспадаркі. Значыцца, уся жылая плошча, якая на падставе асобных дагавораў з камунальнымі аддзеламі знаходзіцца ў распараджэньні жылішчна-арэндных таварыстваў, уваходзіць у склад камунальнага жылішчнага фонду.

3. Жылішчна-арэндныя таварыствы аддаюць пераданыя ім памяшканьні сваім членам, а таксама у наймы грамадзянам, якія не ўваходзяць у склад таварыства (увага да п. „б“ арт. 6 пастановы аб жылішчнай капярацыі і п. „б“ арт. 2 тыповага статуту), прычым разьмеркаваньне плошчы належаць да кампэтэнцыі агульнага сходу членаў таварыства (арт. 7 пастановы аб жылішчнай капярацыі). Значыцца, бяз згоды агульнага сходу таварыства або яго кіраўніцтва, калі апошнему асобнаю пастановаю агульнага сходу дадзена права даваць дазволы на ўсяленьне, ня могуць займацца кім-небудзь памяшканьні, што знаходзяцца пад ведамам і ў распараджэньні жылішчна-арэнднага таварыства.

4. Члены жылішчна-арэнднага каперацыйнага таварыства бяз згоды агульнага сходу або кіраўніцтва таварыства ня маюць права здаваць у наймы частку дадзенай ім плошчы, бо гэтая плошча, па сэнсу арт. 7 пастановы аб жылішчнай капярацыі, перадаецца членам таварыства для беспасрэднага скарыстаньня; таксама, на падставе ўвагі да арт. 170 Грамадзянскага Кодэксу БССР, займаючыя памяшканьні таварыства асобы, якія не зьяўляюцца яго членамі, могуць перадаваць у паднаймы частку гэтага памяшканьня ня накш, як з дазволу агульнага сходу таварыства або яго кіраўніцтва, калі апошнему дана права даваць такія дазволы.

5. Такім чынам, усякая асоба, якая так ці інакш заняла памяшканьне, перадаанае жылішчна-арэнднаму таварыству, бяз згоды яго органаў, зьяўляецца самавольна-усяліўшайся ў памяшканьне, што ўходзіць у камунальны жылішчны фонд.

6. Дзеля гэтага і на падставе п. „в“ арт. 2 пастановы ЦВК і СНК БССР за 19 лютага 1927 г. „Аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў у гарадох і мястэчках“ (З.З. БССР 1927 г., № 12, арт. 42), асобы, якія самавольна ўсяліліся ў памяшканьні, перадаланыя жылішчна-арэндным таварыствам, павінны высяляцца ў адміністрацыйным парадку, прадугледжаным арт. арт. 3—8 паказанай вышэй пастановы за 19 лютага 1927 г., калі самавольнае заняцьце памяшканьня адбылося пасьля ўваходжаньня ў дзеяньне пастановы ЦВК і СНК БССР за 19 лютага 1927 г. (пастанова Народных Камісарыятаў Юстыцыі і Ўнутраных Спраў БССР за 7 ліпеня 1927 г., № 67—Бюлетэнь СНК БССР 1927 г., № 13).

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

23 сьнежня 1927 г.
№ 114.

## 15. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**ПРА ПАТРАБАВАНЬНЕ ПАСЬВЕДЧАНЬНЯЎ АКРУГОВЫХ КАМІСІЙ ГАНДЛЮ ПРЫ НАТАРЫЯЛЬНЫХ ПАСЬВЕДЧАНЬНЯХ ЗГОД АБ ЗДАЧЫ Ў АРЭНДУ МЛЫНОЎ ДЗЯРЖАЎНЫМІ І КАПЕРАЦЫЙНЫМІ АРГАНІЗАЦЫЯМІ.**

*Усім дзяржаўным натарыяльным канторам.*

Для дапаўненьня свайго абежніку за 30 мая 1927 г., № 42, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе:

Парадак, прапанаваны абежнікам Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР за 30 мая 1927 г., № 42, аб патрабаваньні натарусамі пасьведчаньняў адпаведных акруговых камісій гандлю аб дазволе імі здачы млыноў у арэнду пры натарыяльным пасьведчаньні згод аб здачы дзяржаўнымі і каперацыйнымі арганізацыямі ў арэнду млыноў прыватным асобам, пашырыць таксама і на тыя згоды, па якіх млыны паказанымі арганізацыямі здаюцца ў арэнду дзяржаўным і каперацыйным арганізацыям.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**

Ст. Інспэктар Н. К. Юстыцыі БССР **Я. Барышаў.**

9 студзеня 1928 г.
№ 9.

## 16. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**ПРА ПРАВА СУДОЎ ПРЫПЫНЯЦЬ НА ЗІМОВЫ ЧАС ВЫКАНАНЬНЕ ПАСТАНОЎ АБ ВЫСЯЛЕНЬНІ ПРАЦОЎНЫХ З ЗАНЯТЫХ ІМІ ПАМЯШКАНЬНЯЎ.**

*Усім акруговым судом і пракурорам*

Народны Камісарыят Юстыцыі БССР, на скасаваньне абежніку № 95 за 31 кастрычніка 1927 году, прапануе судом, пры разглядзе спраў аб высяленьні грамадзян з занятых імі памяшканьняў, кіравацца наступнымі паказаньнямі.

1. Як агульнае правіла, трэба лічыць, што высяленьня працоўных з занятых імі памяшканьняў у зімовы час не дазваляецца.

2. Пры вынясеньні пастаноў аб высяленьні, суды павінны кожны раз абмеркаваць, на падставе арт. 182 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу, пытаньне аб акладзе тэрміну выкананьня пастановы, калі высяленьне прыпадае на зімовы час, гэта значыцца, на пэрыяд з 1-га лістапада на 1-ае красавіка, і калі адказчыкам па справе зьяўляецца працоўны, які належыць да аднэй з катэгорый, пералічаных у п. п. „б“—„ж“ арт. 158 Грамадзянскага Кодэксу БССР.

3. Пытаньне аб акладзе тэрміну выкананьня пастановы аб высяленьні працоўнага (п. 2) павінна вырашацца з прыняцьцем пад увагу фактычнага становішча адказчыка.

4. Ня можа адкладвацца тэрмін выкананьня пастановы **толькі ў выпадках, паказаных у пунктах** „б“, „в“ і „е“ артыкулу першага пастановы ЦВК і СНК БССР за 19 лютага 1927 г. „Аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў у гарадох і мястэчках“ (З. З. БССР 1927 г., № 12, арт. 42).

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР
і Пам. Пракурора Рэспублікі **С. Гохман.**

12 студзеня 1928 г.
№ 16.

## 17. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

ПРА ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ОРГАНАЎ ДЗЯРЖАЎНАГА СТРАХАВАНЬНЯ АБ СТАНОВІШЧЫ СПРАЎ АБ ПАДПАЛАХ БУДЫНКАЎ.

*Усім акруговым судом і сьледчым органам.*

Каб даць Кіраўніцтву Дзяржаўнага Страхаваньня магчымасьць удзельнічаць у якасьці грамадзянскага ісца ў справах аб падпалах будынкаў і каб сваячасна ліквідаваць не разгледжаныя справы аб пажарных стратах, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1. Сьледчым органам—паведамляць Кіраўніцтву Дзяржаўнага Страхаваньня (Менск, Савецкая вул., 68/29) аб усіх справах па абвінавачаньні грамадзян у падпале будынкаў, якія справы накіроўваюцца для спыненьня або з абвінавальным заключэньнем для адданьня пад суд з паказаньнем у такім паведамленьні, у які суд накіравана справа аб згарэўшых будынках, месца, дзе яны знаходзіліся, уласьнікаў будынкаў і асоб, якія прыцягнуты да адказнасьці і аддаюцца пад суд за падпал будынкаў, або адносна якіх справы накіраваны на спыненьне.

2. Акруговым судом—адначасна з прызначэньнем да слуханьня ў судовых пасяджэньнях спраў аб падпалах будынкаў паведамляць акруговыя агэнцтвы дзяржаўнага страхаваньня аб дні разгляду паказаных спраў.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**
Пам. Пракурора Рэспублікі **А. Кіпарысаў.**

12 студзеня 1928 г.
№ 11.

## 18. Пастанова Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

ПРА ВЫДАЧУ ДАВЕРАНАСЬЦЯЙ НА ВЯДЗЕНЬНЕ СУДОВЫХ СПРАЎ НА ІМЯ ЮРЫДЫЧНЫХ АСОБ І ПРА АПЛАТУ ДАВЕРАНАСЬЦЯЙ, ЯКІЯ ВЫДАЮЦЦА НА ІМЯ НЕКАЛЬКІХ АСОБ.

*Усім судовым органам і натарыяльным канторам.*

У практыцы натарыяльных кантор узьніклі наступныя пытаньні:

а) ці дазваляецца выдаваць даверанасьці на вядзеньне судовых спраў на імя юрыдычных асоб і

б) ці магчыма ад імя аднэй асобы выдаць адну даверанасьць некалькім асобам на вядзеньне судовых спраў з умовай, што ўсе гэтыя асобы маюць права дзейнічаць як разам, так і ў паасобку, а таксама, як гэтакую даверанасьць трэба аплачваць.

Для кіраваньня пры вырашэньні пастаўленых вышэй пытаньняў Народныя Камісарыяты Юстыцыі і Фінансаў БССР прапануюць наступныя правілы:

1. Даверанасьць зьяўляецца дагаворам, на падставе якога адна асоба абавязваецца быць прадстаўніком другой па якому-небудзь грамадзянскаму дзеяньню. У гэтым дагаворы ўдзельнічаюць дзьве стораны: верадавец і даверany.

Кожная асоба, якая па закону прызнаецца дзеяздольнай, можа выдаваць даверанасьці ў якасьці верадаўца. З гэтай прычыны на падставе арт. 16 Грамадзянскага Кодэксу БССР верадаўцам можа быць і юрыдычная асоба, калі гэта належаць да яе кампэтэнцыі.

2. Таксама і даверaным можа быць толькі дзеяздольная асоба. Але закон устанаўляе і абмежаваньні. Паводле арт. 16 Грамадзянскага Кодэксу юрыдычныя асобы ўдзельнічаюць у грамадзянскім звароце і заключаюць угоды толькі праз пасрэдніцтва сваіх органаў або праз сваіх прадстаўнікоў, таму юрыдычныя асобы ня могуць быць даверанымі. З прычыны гэтага арт. 269 Грамадзянскага Кодэксу, устанаўляючы пералік выпадкаў спыненьня дагавору даверанасьці, паказвае для даверанага—сьмерць яго, а для верадаўца таксама і спыненьне юрыдычнай асобы, гэта значыць, што закон не дапушчае, каб даверaным была юрыдычная асоба.

3. Агульныя правілы Грамадзянскага Кодэксу БССР аб дагаворах, а таксама і правілы таго-ж Кодэксу аб даверанасьцях не забараняюць, каб у даверанасьці было вызначана некалькі даверaных або некалькі верадаўцаў.

4. Пытаньне аб аплаце даверанасьцяй, стараною ў якіх зьяўляюцца некалькі асоб, вырашаецца на падставе параўнаньня арт. арт. 10 і 33 Статуту аб Гэрбавым Зборы (З. З. СССР 1927 год., № 55, арт. 553).

Даверанасьць зьяўляецца дагаворам на нявызначаную суму і аплачваецца простым гэрбавым зборам у адзін рубель, хоць-бы ў ёй давалася даручэньне некалькім асобам, бо патрабаваньне арт. 10 аб аплаце гэрбавым зборам кожнай з умоў, якія зьмяшчаюцца ў дагаворы, тычыцца толькі тых дагавораў, якія павінны аплачвацца прапарцыянальным гэрбавым зборам.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

За Народнага Камісара Фінансаў БССР **А. Сьцяпанюк.**

16 студзеня 1928 год.
№ 13.

## 19. Абежнік Народных Камісарыятаў Асьветы і Унутраных Спраў БССР

ПРА ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНЫМІ ЎСТАНОВАМІ ДАГАВОРАЎ З АДДЗЕЛАМІ КАМУНАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКІ НА ЗАЙМАЕМЫЯ БУДЫНКІ.

*Усім прафшколам, школам сацыяльнага выхаваньня, школам палітасьветы, бібліатэкам, хатам-чытальням, народным дамом і аддзелам камунальнай гаспадаркі.*

Для выкананьня распараджэньня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 30 мая 1927 г., Народныя Камісарыяты Асьветы і Унутраных Спраў БССР прапануюць загадчыкам навучальных і культурна-асьветных устаноў і камунальных аддзелаў (раённых або гарадзкіх па належнасьці) наступнае:

1. На працягу тыдня ад дня атрыманьня гэтага распараджэньня заключыць дагаворы на займаемыя муніцыпалізаваныя будынкі паводле далучанага да гэтага абежніку ўзору, якія дагаворы захоўваць пры справах установы.

*Увага.* Дагаворы павінны быць заключаны на ўсе муніцыпалізаваныя будынкі, якія займаюцца прафшколамі, школамі сацыяльнага выхаваньня, школамі палітасьветы, бібліатэкамі (апроч Дзяржаўнай Бібліатэкі і яе аддзяленьняў), народнымі дамамі і хатамі-чытальнямі.

2. Акруговыя інспэктары народнай асьветы, пасьля сканчэньня тэрміну, паказанага ў папярэднім пункце, павінны праверыць выкананьне гэтага абежніку ўстановамі і прыцягнуць да дысцыплінарнай адказнасьці тых загадчыкаў беспасрэдна падпарадкаваных ім устаноў, якія ня выканаюць у тэрмін гэтага распараджэньня; адносна-ж загадчыкаў устаноў, беспасрэдна падпарадкаваных Народнаму Камісарыяту Асьветы, паведаміць апошні.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **Б. Вансоўскі.**
Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**
Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

18 студзеня 1928 г.
№ 9.

---

ДАДАТАК
Узор

### ДАГАВОР

192...... года ...................................... дня. Мы памянёныя ніжэй: Аддзел Камунальнай Гаспадаркі ..................................... Выканаўчага Камітэту (Гарадзкога Савету) ў асобе ..................................... з аднаго боку і Загадчык .....................................
(Назва культ.—асьв. установы)
.....................................
(Прозьвішча, імя і па бацьку)

з другога боку, што называемся ў далейшым першы—здавальнік, а другі—карыстальнік, на падставе пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 4 ліпеня 1927 г. „Аб аплаце памяшканьняў, што займаюцца ў муніцыпалізаваных дамох установамі“, распараджэньня

Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 30 мая 1927 г. і абежніку Народных Камісарыятаў Асьветы і Ўнутраных Спраў БССР за 18 студзеня 1928 г., № 9, заключылі гэты дагавор аб наступным:

1. Здавальнік перадае карыстальніку ў карыстаньне муніцыпалізаванае ўладаньне, якое знаходзіцца ў ..........................................

..........................................

(паказаць горад, мястэчка, вёску, вуліцу, №.................... і раён міліцыі)

і складаецца з ..........................................
(паказаць будынкі пад установу, будынкі для жыльля,

..........................................

хлявы і інш., адзначыўшы плошчы ў кв. мэтрах)

..........................................

..........................................

і ўвесь вучастак зямлі, які належыць да гэтага ўладаньня.

*Увага.* Дакладная плошча ўсяго зямельнага вучастку, які знаходзіцца пад будынкам, дваром і садам, ўстанаўляецца плянам з падрабязнаю экспплікацыяю, які карыстальнік павінен у месячны тэрмін (ад даты падпісаньня дагавору) скласьці за свой кошт з нанясеньнем на гэты плян усіх будынкаў і меж вучастку. Плян захоўваецца ў карыстальніка пры справах; пры жаданьні здавальнік можа за свой кошт атрымаць копію гэтага пляну.

2. Паказанае ў арт. 1-ым гэтага дагавору ўладаньне лічыцца ў фактычным карыстаньні карыстальніка з ..........................................
(паказваецца дата, з якой карыстальнік фактычна карыстаецца ўладаньнем)

3. Паказанае ў арт.1-м гэтага дагавору ўладаньне перадаецца карыстальніку на ўвесь час карыстаньня ім для свайго беспасрэднага прызначэньня.

4. У выпадку ліквідацыі ..........................................
(паказаць культ.-асьветн. установу)
і немагчымасьці скарыстаць будынкі для іншай культурна-асьветнай мэты, апошнія пераходзяць у распараджэньне Аддзелу Камунальнай Гаспадаркі .................... Выканаўчага Камітэту (Гарадзкога Савету), прычым карыстальнік павінен здаць, а здавальнік — прыняць уладаньне паводле сьпісу ў 2-х тыднёвы тэрмін пасьля ліквідацыі ўстановы.

5. Калі будынкі ліквідаванага карыстаньня патрэбны будуць органам Народнага Камісарыяту Асьветы для адчыненьня іншай культурна-асьветнай установы, то здавальнік павінен перадаць гэтыя будынкі і зямельны вучастак новаму карыстальніку паводле перадатачнага надпісу на гэтым дагаворы.

*Увага.* Калі ўладаньне будынкамі ліквідаванай ўстановы перайшло да Аддзелу Камунальнай Гаспадаркі, то органы Народнага Камісарыяту Асьветы могуць зноў атрымаць гэтыя будынкі толькі на агульных умовах.

6. За карыстаньне ўладаньнем, паказаным у арт. 1-м гэтага дагавору, здавальнік ад карыстальніка ніякай арэнднай платы не бярэ·

7. Карыстальнік павінен за свой кошт рабіць патрэбны рамонт усіх будынкаў, пералічаных у арт. 1-м гэтага дагавору, і захоўваць іх ад руйнаваньня, а таксама будаваць тратуары і трымаць вуліцы супроць уладаньня ў парадку, для чаго павінен уносіць у свой каштарыс суму, патрэбную на гэтыя мэты.

8. На абавязку карыстальніка ляжыць нагляд за садам, а імена: своечасная пасадка пладовых дрэў на месцы засохшых, угнаеньне і падрэзка дрэў, змаганьне з шкоднікамі.

9. Карыстальнік бярэ на сябе абавязак штогод, пачынаючы з 19.........г., за свой кошт і ад свайго імя страхаваць уладаньне, паказанае ў арт. 1-м гэтага дагавору, на поўны яго кошт.

10. У выпадку поўнага або частковага зьнішчэньня будынкаў, страхавая прэмія павінна быць выкарыстана карыстальнікам на аднаўленьне зьнішчаных будынкаў.

11. Карыстальнік мае права на працягу ўсяго тэрміну карыстаньня ўладаньнем, паказаным у арт. 1-м гэтага дагавору, за свой кошт рабіць прыбудаваньні і новыя будынкі з захаваньнем існуючых законаў па будаўніцтву, без асобнага дазволу здавальніка.

12. Трыманьне ў парадку дымаходаў і печаў, ачыстка дахаў ад сьнегу, ачыстка комінаў, заходаў (адхожых месц), памыйных ям, трыманьне ў парадку двара, ачыстка вуліцы ад сьмецьця і сьнегу і ўсе наогул патрабаваньні санітарнага характару ляжаць на абавязку карыстальніка.

13. Гэты дагавор складзен у 2-х экзэмплярах, з якіх адзін захоўваецца ў карыстальніка, а другі—ў здавальніка.

14. Дагавор набывае сілу з моманту падпісаньня і не зацьвярджаецца вышэйшымі за іх установамі.

Подпісы: Здавальнік ..............................

Карыстальнік ..............................

Зацьверджан НКФ БССР 11 чэрвеня 1927 г. і 28 сьнежня 1927 г.

## 20. Дадатковы сьпіс *)

ПРАДПРЫЕМСТВАЎ І ГАСПАДАРАК НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОЎ, ПАДПАРАДКАВАНЫХ НАРОДНАМУ КАМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ, ЯКІМ НАДАЕЦЦА ПРАВА КРЭДЫТАВАЦЦА Ў КРЭДЫТНЫХ УСТАНОВАХ І АБАВЯЗВАЦЦА ВЭКСАЛЯМІ, БРАЦЬ ЗАКАЗЫ І РАБІЦЬ ІНШЫЯ ПАТРЭБНЫЯ ЎМОВЫ, А ТАКСАМА ЎВАХОДЗІЦЬ ЧЛЕНАМІ Ў АРГАНІЗАЦЫІ І АБ'ЯДНАНЬНІ, ЯКІЯ ЎТВАРАЮЦЦА ДЛЯ АГРАКУЛЬТУРНЫХ ПАЛЕПШАНЬНЯЎ І ТЭХНІЧНАГА ЎДАСКАНАЛЕНЬНЯ І НЯ МАЮЦЬ НА МЭЦЕ БЕСПАСРЭДНАЙ КАМЭРЦЫЙНАЙ КАРЫСЬЦІ.

1. Майстэрні пры Гомельскай Прафэсіянальна-Тэхнічнай Школе Мэталістаў.

2. Майстэрні пры Гомельскай Прафэсіанальна-Тэхнічнай Школе Дрэваапрацоўшчыкаў.

3. Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт у адносінах да будынкаў № 7 і 11, якія пераведзены на гаспадарчы разрахунак.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

*) Гл. Бюлетэнь СНК БССР за 1927 г. № 14 (39).

Узгоднена з Народным Каміса рыятам Фінансаў і з Народным Камісарыятам Працы БССР.

## 21. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Асьветы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

ПРА ПАРАДАК ПРАХОДЖАНЬНЯ СТАЖУ АСОБАМІ, ЯКІЯ КАНЧАЮЦЬ МЭДЫЦЫНСКІ ФАКУЛЬТЭТ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЭРСЫТЭТУ.

(Выдадзена на падставе пастановы распарадчага пасяджэньня СНК БССР за 13/XII—1927 г., № 310, п. 384).

1. Праходжаньне маладымі дактарамі абавязковага гадовага стажу мае мэтай набыцьцё практычных навыкаў у вызначанай галіне доктарскай дзейнасьці.

2. Стажоры-дактары праходзяць стаж пры клініках, а таксама пры гарадзкіх і сельскіх лекава-санітарных установах БССР.

3. Стажоры-дактары за час праходжаньня стажу атрымоўваюць заработную плату, паводле арт. 5 альбо арт. 6 гэтай пастановы.

4. Распрацоўка праграм стажу, разьмеркаваньне стажораў-дактароў у лекава-санітарныя установы, назначэньне стыпэндый, а таксама агульнае нагляданьне за праходжаньнем стажу ўскладаецца на стажорскую камісію пры Народным Камісарыяце Аховы Здароўя ў складзе: Народнага Камісара Аховы Здароўя (альбо яго намесьніка), Дэкана Мэдыцынскага Факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту і прадстаўнікоў ад Народнага Камісарыяту Асьветы, Цэнтральнага Кіраўніцтва Прафэсіянальнага Саюзу Мэдсанпрацы і прафэсіянальнага камітэту студэнтаў Мэдыцынскага Факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

5. Паводле арт. 5 пастановы СНК СССР за 14/VI—1926 год (З. З. СССР 1926 г., № 44, арт. 220) стажоры-дактары забясьпечваюцца стыпэндыямі, якія павінны быць прадугледжаны па каштарысах Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя і акруговых інспэктур аховы здароўя.

*Увага.* Стажоры-дактары, якія атрымалі гадовую стыпэндыю, павінны пасьля сканчэньня стажу прапрацаваць ня менш аднаго году на доктарскай пасадзе па назначэньні Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя альбо акруговай інспэктуры аховы здароўя.

6. Стажоры-дактары могуць назначацца Народным Камісарыятам Аховы Здароўя на вольныя доктарскія пасады ў лекава-санітарныя ўстановы, а таксама могуць выбірацца на пасады ардынатараў (навуковых працаўнікоў) пры клініках і катэдрах Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

7. У паасобных выпадках стажорская камісія мае права дазваляць праходжаньне гадовага стажу за межамі БССР, а таксама даваць бясплатны стаж пры лекава-санітарных ўстановах у гарадох БССР.

8. Дыплёмы на годнасьць доктара выдаюцца Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэтам на падставе пасьведчаньняў Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя аб сканчэньні стажу.

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

## 22. Абежнік Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі БССР

ПРА ПАДРЫХТОЎКУ СЬВЯТКАВАНЬНЯ ДНЯ 8-га САКАВІКА — МІЖНАРОДНАГА ЖАНОЧАГА КАМУНІСТЫЧНАГА ДНЯ.

*Усім старшыням раённых і сельскіх камітэтаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі БССР.*

Надыходзіць дзень 8-га сакавіка, дзень сьвяткаваньня міжнароднага жаночага камуністычнага дня. Камітэты сялянскіх таварystваў узаемадапамогі павінны прыняць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзеньні гэтага дня, для чаго павінны зрабіць наступнае:

1. Падрыхтаваць дакладныя матар'ялы аб тым, што зроблена для жанчын-сялянак па лініі камітэтаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі, якія мерапрыемствы намечаны на бягучы год.

2. Кожны раённы камітэт сялянскіх таварystваў узаемадапамогі і сельскі камітэт сялянскага таварыства узаемадапамогі павінны выдзеліць 2 гаспадаркі, якія вядуць жанчыны-ўдовы, і каператаваць іх. Тое самае трэба зрабіць і для 2 сям'яў чырвонаармейцаў—бедня-коў, унесшы за іх уступныя уносы з сродкаў камітэтаў.

3. Зрабіць з сродкаў камітэту матар'яльную дапамогу для арганізацыі дзіцячых ясьляў і пляцовак.

4. Арганізаваць грамадзкую дапамогу для рамонту і пабудовы будынкаў тым бедным удовам, якія ня маюць ні працоўнай сілы, ні каня, і забясьпечыць іх апалам, а таксама даць каня на заворку зямлі на працягу году.

5. Адкласьці тэрмін звароту пазычак тым бедным удовам, якія ня могуць сваячасна зьвярнуць іх.

6. З тых удоў-бяднячак, якія ня могуць зьвярнуць пазычку, трэба яе зусім зьняць.

7. У выключных выпадках найбольш бедным удовам даць безвароротную дапамогу.

8. Пры разьмеркаваньні насеннай пазычкі, у першую чаргу даць пазычку ўдовам-бяднячкам, што працуюць на сваёй сельскай гаспадарцы, а таксама наогул сялянкам-бяднячкам.

9. Прыняць удзел у арганізацыі сельска-гаспадарчых і саматужных жаночых каляктываў, перадаючы іх у належную сыстэму капярацыі.

10. Пляны падрыхтоўчай працы і самае правядзеньне сьвята жанчын раённыя і сельскія камітэты сялянскіх таварystваў узаемадапамогі павінны ўзгодніць з жаночымі арганізатарамі.

У самы дзень сьвята раёныя і сельскія камітэты сялянскіх таварystваў узаемадапамогі павінны зрабіць наступнае:

1) зрабіць даклад на сходзе сельскіх упаўнаважаных і пасяджэньнях сельскіх і раённых камітэтаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі аб тым, што зроблена ў працягу году для палепшаньня быту жанчын і маемаснага становішча, якія мерапрыемствы для палепшаньня жыцьця сялянак-бяднячак мяркуюцца на бягучы год;

2) уручыць капяраваным удовам-сялянкам і наогул сялянкам-бяднячкам і сем'ям чырвонаармейцаў каперацыйныя кніжкі;

3) абвясьціць якім удовам-бяднячкам адкладзен тэрмін і з якіх зусім зьняты пазычкі або вызначана матар'яльная дапамога;

4) наогул аб усім, што зроблена для жанчын, трэба расказаць на сходах у дзень 8-га сакавіка.

Прэзыдыум Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі БССР прапанує сельскім і раённым камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі ужыць усе захады да выкананьня памянёных вышэй мерапрыемстваў да дня 8-га сакавіка.

Аб выніках паведаміць Цэнтральнаму Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі БССР не пазьней 25-га сакавіка г. г.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі БССР **Л. Адзінцоў.**

Адказны Сакратар Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі БССР **П. Стрыкаў.**

9 лютага 1928 г.
№ 576.

---

## 23. Пытаньні і адказы.

### Запытаньне Запольскага Сельскага Савету Плешчаніцкага раёну Менскай акругі за 14/VI—1927 г., № 974.

ПЫТАНЬНЕ 4. Як адзначаюцца ў падворным сьпісе зьмены, якія адбываюцца ў двары, напрыклад: у выпадку сьмерці гаспадара і замены яго другім з ліку членаў сям'і?

Ці трэба зьмену колькасьці жывёлы ў гаспадарцы адзначаць ў падворным сьпісе зараз-жа пасьля таго, як адбудзецца зьмена, ці адзін раз у год, на 1-ае красавіка?

АДКАЗ. Калі ўмірае гаспадар ці хто-небудзь з членаў двара, то аб гэтым адзначаецца ў графе 8 сьпісу супроць прозьвішча памёршага з паказаньнем даты сьмерці, а прозьвішча яго закрэсьляецца ў сьпісе чырвонаю рыскаю; у графе 2 пад прозьвішчам старога гаспадара запісваецца новы і адзначаецца ў графе 8 супроць ранейшага запісу гэтага члена двара аб тым, што ён назначаны гаспадаром і ў графе 5 яго прозьвішча закрэсьляецца. Таксама і ў выпадку зьмены гаспадара пры жыцьці старога, калі гэты апошні астаецца ў складзе двара, ён запісваецца ў графу 5, а замест яго ў графу 2 запісваецца новы гаспадар.

Зьмены колькасьці жывёлы ў двары павінны адзначацца ў падворным сьпісе адразу пасьля таго, як адбудзецца зьмена, бо падворны сьпіс павінен паказваць стан гаспадаркі ў кожны момант

### Запытаньне Талачынскай Раённай Зямельнай Камісіі за 5/VIII-1927 г., № 6490.

ПЫТАНЬНЕ 5. Ці можна дазваляць абрэзку хутарскіх гаспадарак сіламі сельскіх саветаў у тых выпадках, калі на абрэзках можа быць створана група новых хутароў у ліку нябольш 5-ці?

АДКАЗ. Пунктам 4 абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства за 5/III-1927 г., №16, прадугледжана, што адабраньне лішкаў зямлі ва ўсіх выпадках, незалежна ад таго, які можа быць створан фонд у выніку такога адабраньня, павінна рабіцца сіламі земляўпарадчыкаў з ужываньнем усіх тэхнічных і працэсуальных правіл земляўпарадкаваньня.

(Адказы на пытаньні 4 і 5 даюцца аддзелам Мэліарацыі, Земляўпарадкаваньня і Дзяржаўнай Зямельнай Маемасьці НКЗ БССР—адносьнік за 16/I-1928 г. № 548).

## Пытаньне, якое ўзьнікла ў практыцы Народнага Комісарыяту Працы БССР.

ПЫТАНЬНЕ 6. У якіх выпадках павінна ўжывацца пастанова ЦВК і СНК СССР за 14 студзеня 1927 г. „Аб умовах працы часовых рабочых і служачых“ (З. З. СССР 1927 г., № 9, арт. 80)?

АДКАЗ. Пастанова ЦВК і СНК СССР ня можа ўжывацца да ўсіх рабочых, занятых на рамонтах. Ва ўсякім выпадку паказаная вышэй пастанова не павінна ўжывацца да рабочых, занятых на работах, якія зьяўляюцца часьцямі больш складаных работ і якія могуць быць, для не пашырэньня на рабочых агульнага заканадаўства, выдзелены у самастойныя работы праз скарыстаньне, паўторнага найму альбо зьмены работнікаў на кожнай паасобнай рабоце. Тым больш не дапушчаецца ўжываньне закону аб умовах працы часовых рабочых і служачых тады, калі рамонтныя работы маюць плянавы характар. Такім чынам у змаганьні з абходам закону „Аб умовах працы часовых рабочых і служачых“, галоўным чынам, трэба сачыць за захаваньнем арт. 22 пастановы ЦВК і СНК СССР за 14/I—1927 г. і арт. 3 абежніку Н. К. Працы, Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі, Н.. К Шляхоў СССР за 16 красавіка 1927 г., № 77., „Аб умовах ужываньня пастановы ЦВК і СНК СССР за 14/I—1927 г. „Аб умовах працы часовых рабочых і служачых“ (Известия Н. К. Труда СССР 1927 г., № 17).

На падставе сказанага вышэй трэба ўжываць закон аб умовах працы часовых рабочых і служачых толькі ў бяспрэчных выпадках; у тых-жа выпадках, калі нельга ўстанавіць характар і даўжыню працы, пытаньне аб ужываньні закону аб умовах працы часовых рабочых і служачых павінна вырашацца адмоўна.

(Адказ на пытаньне 6 даецца Н. К. Працы БССР—адносьнік за 19-I 1928 г. № 12-21-11)

---

### Друкарскія памылкі.

У п. 1 пастановы Н. К. Унутраных Спраў БССР і Ўпаўнаважанага НК Шляхоў СССР пры СНК БССР на старонцы 28 гэтага № Бюлетэню замест „на бакох“ чытаць: „на абочынах“.

Адказны Рэдактар: Рэдакцыйная Калегія.